# ЦІШКА ГАРТНЫ

Багатая і разнастайная творчасць старэйшага беларускага пісьменніка Цішкі Гартнага (літаратурны псеўданім Зміцера Тодаравіча Жылуновіча) доўгі час была забыта. Таму кожнае новае выданне яго твораў азначае, па сутнасці, іх другое нараджэнне.

Людзі старэйшага пакалення будуць мець магчымасць аднавіць у сваёй памяці шмат якія радкі і вобразы з твораў пісьменніка, а малады савецкі чытач пазнаёміцца з імі ўпершыню.

Цяжкім і складаным, але цікавым быў шлях Гартнага ў літаратуру. Яго творчасць — своеасаблівая старонка ў гісторыі беларускай літаратуры. Гэта быў пісьменнік вялікай творчай актыўнасці і невычэрпнага энтузіязму. Ён крочыў у нагу з бурлівымі падзеямі свайго часу, знаходзячыся заўсёды на перадавых пазіцыях грамадска-палітычных падзей і змагаючыся за літаратуру, цесна звязаную з жыццём народа.

Ён пісаў вершы і паэмы, байкі і фельетоны, нарысы і апавяданні, аповесці, раманы і драматычныя творы, якія адлюстроўвалі жыццё народа, яго працу і барацьбу. Акрамя гэтага Гартны вядомы як палымяны публіцыст-агітатар, крытык, літаратуравед і гісторык.

У гэтым годзе спаўняецца 75 год з дня нараджэння Цішкі Гартнага.

Яго радзіма — беларускае мястэчка Капыль — мае сваю даўнюю гісторыю. Гэта адзін з рэвалюцыйных куткоў былой акраіны

царскай Расіі. Яшчэ ў 1903 г. у мястэчку была створана сацыял-дэмакратычная група, якая ў перыяд першай рускай рэвалюцыі арганізоўвала сярод рабочых і сялян мястэчка дэманстрацыі, мітынгі і забастоўкі, праводзіла вялікую агітацыйную і прапагандысцкую работу як у Капылі, так і ў навакольных вёсках, накіраваную супраць царскага самаўладства. Менавіта з гэтай групай у 1904 г. звязаў свой лёс юнак Жылуновіч, а ў 1906 г. стаў ужо членам камітэта.

Капыльская сацыял-дэмакратычная група была арганізаванай і баявой. Яна не спыніла сваёй рэвалюцыйнай дзейнасці і ў гады чорнай сталыпінскай рэакцыі. Кіруючае ядро арганізацыі ў гэты час у асноўным складалася з моладзі — Зміцера Жылуновіча, Рыгора Чарнушэвіча і іх сяброў.

У 1909 г. у групу ўступае Алесь Гурло і Хведар Чарнушэвіч — будучыя беларускія паэты. Усе яны цікаўныя, здольныя і энергічныя юнакі, выхадцы з асяроддзя местачковых пралетарыяў і бяднейшых сялян. Імкнучыся прыняць удзел у вызваленні свайго народа з ланцугоў сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання, яны прагнулі ведаў, святла, культуры.

Маладыя сацыял-дэмакраты з захапленнем чыталі рускую мастацкую і палітычную літаратуру. Гэтаму садзейнічала існаваўшая ў Капылі тайная бібліятэка сацыял-дэмакратаў. Яна была размешчана ў хаце 19-гадовага сялянскага юнака Рыгора Чарнушэвіча. Акрамя іншых кніг, у ёй знаходзіліся творы Уладзіміра Ільіча Леніна. Потым бібліятэка была выяўлена паліцыяй.

Пракурор Мінскага акруговага суда, паведамляючы аб тайнай бібліятэцы капыльскіх сацыял-дэмакратаў, 10 сакавіка 1907 г. пісаў у Міністэрства юстыцыі, што ў кватэры Рыгора Чарнушэвіча «знойдзен 1 экз. брашуры Леніна з загалоўкам «Доклад об объединенном съезде РСДРП», у якой заключаецца крытыка палажэнняў меншавікоў па розных пытаннях, якія абмяркоўваліся на з'ездзе, у тым ліку і па пытанню аб узброеным паўстанні, і падаецца той погляд, што толькі шляхам узброенага паўстання могуць быць дасягнуты мэты партыі...».

Гэтай жа групай у прапагандысцкіх і агітацыйных мэтах пад шыльдай гуртка «Самаразвіцця і самаадукацыі» ў 1910—1911 гг. выдаваліся рукапісныя літаратурна-публіцыстычныя маладзёжныя часопісы «Заря», «Голос низа» (на рускай мове) і «Вольная думка» (на беларускай мове). Алесь Гурло адзначаў пазней, што «гэтыя часопісы, апрача свайго непасрэднага прызначэння — агіта-

цыі сярод шырокіх мас,— былі ў некаторай ступені і літаратурнай школай для пачынаючых паэтаў і пісьменнікаў, у тым ліку і для мяне».

Менавіта з гэтай школы выйшлі вядомыя беларускія пісьменнікі Цішка Гартны, Алесь Гурло, Хведар Чарнушэвіч і інш. На традыцыях гэтай школы выхоўваліся і трошкі маладзейшыя капыляне — паэты Мікола Хведаровіч, Нічыпар Чарнушэвіч і інш. Бадай невыпадкова і тое, што двое з пісьменнікаў гэтай групы — З. Жылуновіч і А. Гурло — пазней друкуюцца ў бальшавіцкіх газетах.

Наяўнасць рукапісных часопісаў адхіляе версію тых крытыкаў і літаратуразнаўцаў, якія ўвесь складаны працэс развіцця дакастрычніцкай беларускай літаратуры зводзілі да «Нашай нівы».

Так у працэсе рэвалюцыйнай барацьбы і ўпартай самаадукацыі ішло фарміраванне светапогляду маладых рэвалюцыянераў, рос іх культурны ўзровень.

Знамянальна, што год уступлення Цішкі Гартнага ў сацыял-дэмакратычную групу і пачатак літаратурнай дзейнасці супадаюць. Гэта быў 1904 г.— пярэдадзень рэвалюцыйных падзей 1905—1907 гг.

Першым літаратурным настаўнікам Гартнага быў М. А. Някрасаў.

Знаёмства з рускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай і рабочай паэзіяй, чытанне сацыял-дэмакратычнай партыйнай літаратуры, непасрэдны ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе вызначылі напрамак, тэматыку і ідэйна-мастацкі змест яго творчасці. І хоць паэзія Гартнага з самага пачатку развівалася ў агульнай плыні рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку беларускай літаратуры, на чале якога стаялі Янка Купала і Якуб Колас, але яна мае і свае асаблівасці.

Гартны адразу выступіў у літаратуры як пясняр абяздоленых людзей, як паэт-рэвалюцыянер, які сваё мастацкае слова аддаў працоўнаму народу і прыгнечанай радзіме. Выражаючы гнеўны пратэст супроць царскіх кайданоў, надзетых на беларускі народ, паэт усклікаў:

К черту же их все железные эти,
Тесно сомкнутые, рабские цепи!..
...Мочи нет больше терпеть и страдать...

*(в. «Вопль безработного», 1908).*

Адначасова Гартны заклікаў працоўных верыць, што

І да нашага любага краю
Шчасце вясны прыплыве.

*(«Думкі беларуса», 1909).*

Паэт не абмяжоўваецца традыцыйнай сялянскай тэматыкай і побач з вобразамі сяўца, жняі, касца («Сявец», «Песня жняі», «Касьба») упершыню ў беларускай літаратуры стварае вобразы рабочага-гарбара — «рыцара цяжкай працы», каваля, ткачыхі («Песні гарбара», «Каваль», «Ткачыха»), якія ў тагачасным жыцці краіны займалі перадавыя грамадскія пазіцыі, былі на пярэднім краі барацьбы за рэвалюцыйнае пераўтварэнне грамадскага ладу.

І тое, што менавіта гэты герой дарэвалюцыйнай сацыяльнай рэчаіснасці стаў прадметам увагі паэзіі Гартнага, пераважна паэзіі малой формы і лірычнага складу, з'яўляецца зусім натуральным, таму што праца, быт і змаганне самога паэта былі ўвасабленнем жывых рыс гэтага героя.

Сувязь з рабочым рухам і рабочай паэзіяй прыводзіць Гартнага ў «Праўду».

Ён пазнаёміўся з «Праўдой» у 1912 г. у гор. Вількаміры, дзе працаваў у якасці гарбара. Рабочыя вількамірскіх прадпрыемстваў лічылі «Праўду» сваёй газетай. Яна карысталася ў іх вялікай папулярнасцю.

«Правда» адразу шмат увагі ўдзяліла выхаванню літаратурных кадраў з рабочага асяроддзя. Газета заклікала пісьменнікаў глыбей вывучаць жыццё народа і чэрпаць адтуль матэрыял для сваіх твораў. Заклікі рабочай газеты падабаліся Жылуновічу.

І хоць ён тады ўжо меў сталую сувязь з газетай «Наша ніва», на старонках якой было надрукавана шмат вершаў і першыя апавяданні на роднай мове, «Правда» адразу прыцягнула ўвагу маладога паэта. Ён пачаў пісаць карэспандэнцыі і вершы на тэмы фабрычна-заводскага жыцця і пасылаць іх у «Праўду». Рэдакцыя газеты спагадліва і ўважліва паставілася да маладога паэта, надрукаваўшы на сваіх старонках адзін за адным некалькі ягоных вершаў, якія былі падпісаны то псеўданімам Д. Скарбяшчы, то сапраўдным прозвішчам Д. Жылуновіч.

Першым вершам З. Жылуновіча, змешчаным у «Правде», быў «Лишь только фабричный гудок прогудит...», падпісаны псеўданімам Д. Скарбяшчы («Правда», 12 жніўня 1912 г.).

Лірычны герой верша — фабрычны рабочы — заяўляў, што «ни жизнь без просвета, ни цепи судьбы» больш яго не прыгнятаюць, што ён жыве «радостью борьбы» і таму пяе «смелые песни рабочих».

Ни жизнь без просвета, ни цепи судьбы,
Ни горе раздумья меня не гнетут.
Но ясные мысли и радость борьбы
Все глубже, все шире, смелее растут!..

Прыкладна праз месяц у «Правде» (22 верасня 1912 года) быў надрукаваны за подпісам Д. Жылуновіча верш — «Песня кузнеца»:

Посмотри на мой горн, как пыхтит,
Будто кузница жаром облита!
Разлетаются искры сердито,
И железо с угрозой шумит!

Наковальню стальную свою
Приготовил давно под удары,
Из железа — смягчилась от жара —
Острый меч для себя я кую.

Вядома, што друкавацца ў легальнай газеце і заклікаць да рэвалюцыйнай барацьбы і звяржэння самаўладдзя ў тыя гады было небяспечна. Трэба было ўмела абыходзіць рагаткі цэнзуры. Паэтам даводзілася перадаваць свае думкі пры дапамозе алегорый і сімвалаў.

«Песня кузнеца» З. Жылуновіча стаіць у агульным шэрагу з такімі вершамі рэвалюцыйнай паэзіі, як «Клятва» А. Коца, «Кузнецу» І. Прывалава, «Мы — кузнецы...» Ф. Шкулёва. Яна пераклікаецца таксама з «Песняй кузнеца» А. Мікульчыка, ураджэнца Беларусі.

Восенню 1912 г. у час свайго адпачынку Зміцер Жылуновіч разам са сваім сябрам Рыгорам Шкурынскім сабралі сярод капылян і сялян навакольных вёсак 27 рублёў і паслалі іх у «жалезны фонд» «Правды». У той жа час Жылуновіч напісаў у Дзяржаўную думу на імя бальшавіцкай фракцыі петыцыю, у якой былі выкладзены патрабаванні сялян да ўрада. Пад петыцыяй стаяла каля 30 подпісаў.

Сувязі Жылуновіча з «Правдой» яшчэ больш умацаваліся, калі ён пераехаў у Пецярбург (вясной 1913 г.). У сваіх успамінах

ён пісаў, што неаднаразова наведваў рэдакцыю, гутарыў з яе супрацоўнікамі. Пасля першага наведвання рэдакцыі ў «Правде» было надрукавана некалькі карэспандэнцый Жылуновіча аб жыцці гарбароў і рабочых пецярбургскага завода «Вулкан», на якім працаваў і сам карэспандэнт у якасці станочніка-фрэзероўшчыка.

Адзначаючы 20-годдзе газеты «Правда», Гартны пісаў: «Праз некалькі дзён пасля майго першага наведвання рэдакцыі «Правды» на яе старонках з'явіўся нарыс з жыцця гарбароў з загалоўкам «В мастерской». Следам была надрукавана карэспандэнцыя з завода «Вулкан», яшчэ праз некалькі дзён з'явіўся верш «Говор волн». Я быў па-за сабою ад здавальнення і гордасці, угледзеўшы свае творы на старонках «Правды» [1].

Верш «Говор волн» з'явіўся на старонках «Правды» 26 мая 1913 г.

Вобраз «расходившейся бури на море», які падаецца ў вершы, несумненна сімвалізаваў сабою ўздым рэвалюцыйнага руху — прадвесніка рэвалюцыі, якая павінна была прынесці працоўным «простор и свободу».

Жылуновіч захоўваў сувязі з «Правдой» аж да самага яе закрыцця.

Газета «Звезда» — орган Цэнтральнага бюро Камуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі — у сувязі з 15-годдзем літаратурнай дзейнасці Цішкі Гартнага пісала, што ў самыя цяжкія часы гісторыі, у гады рэакцыі, «калі з душы народнай хацелі з коранем вырваць пасевы 1905 года і адабраць у яго (народа — А.К.) нават веру ў сваё вызваленне,— песні гарбара гучэлі мацней і галасней усяго. Сын рэвалюцыйнай буры 1905 года — яе рашучасці і смеласці, сын народа, змучанага вякамі да крайнасці,— Цішка Гартны быў цвёрдым не толькі ў мінуты яго асабістых жыццёвых удач, але і ў цяжэйшыя мінуты свайго жыцця і працы... У гэтым сэнсе ён — сапраўды лепшы выразнік волі беларускіх працоўных мас, выразнік лепшых рыс яго характару...» («Звезда», 1923, № 291).

Беларускі народ з павагай успамінае свайго паэта Цішку Гартнага, які першым з беларускіх літаратараў друкаваў свае творы на старонках «Правды» яшчэ ў дарэвалюцыйны час.

Жыццё ў Пецярбургу, праца на заводзе «Вулкан», актыўны ўдзел у рабоце асветнага таварыства «Знание», супрацоўніцтва ў

[1] Газета «Літаратура і мастацтва», 1932, № 8.

бальшавіцкай газеце «Правда» мелі для Гартнага вялікае выхаваўчае значэнне. Пад уздзеяннем «Правды» павысіўся баявы рэвалюцыйны тон яго паэтычных твораў на роднай мове («Змагайся», «Таварышу», «Йдзі дарогаю заросшай...», «Просьба» і інш.). Паэт з натхненнем клікаў народ на поле бою, да згуртавання рэвалюцыйных сіл, жадаючы разварушыць, ускалыхнуць «цярпенне людское» і накіраваць яго на барацьбу з самаўладствам.

Балючыя скаргі
Раздуй у пажар ты.

(*«Змагайся»*).

— вось баявы кліч паэта.

Менавіта ў гэты перыяд паэтычныя вобразы становяцца больш выразнымі, напаўняюцца эмацыянальным пачуццём, разнастайнасцю мастацкіх прыёмаў.

Першыя друкаваныя апавяданні Цішкі Гартнага на роднай мове — «Думкі», «Думкі беларуса», «Скошаны луг», «Пустуючы шнурок» і інш.— убачылі свет у 1909 г. у газеце «Наша ніва».

Гэтыя апавяданні можна назваць лірычнымі, або «лірыкай у прозе». У іх назіраецца своеасаблівае спалучэнне бытавога і сацыяльнага з лірычным. Чулая душа пісьменніка прымала блізка да сэрца трагедыю жыцця беларускага народа. Пакуты працоўных людзей былі ўласнымі пакутамі Гартнага.

Лірычны герой яго апавяданняў прызнаваўся: «Найбольш я любіў думаць аб жыцці і долі-нядолі працавітага беднага люду, бо я сам працаўнік, сам бяздольны...» («Адвячоркам», «Наша ніва», 1910, № 21).

Разважанні Гартнага аб жыцці маюць філасофскую афарбоўку, за якой у замаскіраваным выглядзе ў гады рэакцыі хаваліся яго палітычныя погляды. «Няма нічога мацнейшага за жыццё,— пісаў пісьменнік,— яно цячэ ўпорнай, сільнай хваляй і пакідае за сабой новае, лепшае, а знішчае старое, аджыўшае. Жыццё мае гэткую сілу, гэткае лякарства, што яно заўсёды вылечвае ад застарэўшае хваробы...» («Думкі беларуса». «Наша ніва», 1909, № 33). Несумненна, што пад «застарэўшай хваробай» пісьменнік разумеў рускі царызм з усімі палітычнымі атрыбутамі.

Стылёвай асаблівасцю ранніх дакастрычніцкіх апавяданняў Гартнага з'яўлялася тое, што іх лірычны герой падаваўся не ў дзеянні, а праз яго думкі, пачуцці, перажыванні.

Як у вершах, так і ў апавяданнях ранняга перыяду творчасці Гартнага выражалася цвёрдая вера ў заўтрашні дзень. Гэты аптымізм быў адной з адзнак прагрэсіўнасці і рэвалюцыйнасці светапогляду пісьменніка.

Можна беспамылкова сцвярджаць, што ў дакастрычніцкі перыяд напісаны і такія апавяданні, як «Лайдак», «Распусніца», «Велікодная каробка», «Шукаючы працы», «Штрэйкбрэхер» і інш., якія ўпершыню ўбачылі свет толькі ў савецкі час. Гэта невялікія празаічныя замалёўкі (сам Гартны называў іх сказамі), у якіх пададзена трагедыя жыцця той часткі жыхароў дарэвалюцыйнага мястэчка, якія жылі з працы сваіх рук.

Не сцярпеўшы здзекаў пана Замыжнага, трагічна загінуў маленькі хлопчык Янка («Лайдак»). Галеча і нядоля, спагада да сваіх дзяцей даводзіць да амаральных учынкаў рабочага-падзёншчыка Антося Ступу («Велікодная каробка»). Гэтымі апавяданнямі аўтар падкрэсліў, што свет капіталізму напоўнены сацыяльнымі канфліктамі і што ў гэтай барацьбе з суровай рэчаіснасцю людзі працы становяцца маральна скалечанымі, а часам і гінуць.

З апавяданнем «Штрэйкбрэхер» у беларускую прозу ўвайшла рабочая тэматыка. У зносцы да загалоўка аўтар тлумачыць, што штрэйкбрэхер — гэта «той, хто парушае таварыскую пастанову баставаць і, наперакор таварышам, ідзе працаваць». Тлумачэннем значэння слова штрэйкбрэхер аўтар, па сутнасці, раскрыў і змест твора. Матэрыялам для апавядання, несумненна, паслужылі жыццёвыя назіранні, працоўная дзейнасць самога Гартнага. Чарнавыя накіды гэтага твора выразна выступаюць у «Дзённіку рабочага», які вёў Гартны ў 1907—1908 гг., і аўтабіяграфічным нарысе «Маё жыццё». Твор напісан у псіхалагічным плане. Рабочы Анупрэй правільна разумеў, што «забастоўка — гэта вайна... А ў вайну нельга аднаму супроціў усіх весці перамовы з ворагам. Гэта ёсць здрада». Але ён не мог далей марыць голадам сваіх дзяцей і вымушан быў пайсці да гаспадара і папрасіць грошай у лік будучай зарплаты.

Разуменне таго, што ён парушыў таварыскі абавязак, адклікаецца болем у сэрцы Анупрэя. Ён пакутуе і глыбока перажывае свой учынак. Аўтар паказвае, што ў душы героя адбываецца складаны псіхалагічны працэс: абуджаецца яго класавая свядомасць, расце пачуццё таварыскага абавязку і чалавечай годнасці.

З апавяданняў Гартнага вее душэўнай цеплынёй і спагадай да простага чалавека. Але гэтая спагада не была бязвольнай спага-

дай слабага чалавека. Праз яе яскрава перададзена абурэнне і пагарда пісьменніка да тагачаснага палітычнага ладу.

Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю Цішка Гартны ўспрыняў як сваю рэвалюцыю і з радасцю вітаў яе:

Гары ж, агонь Кастрычніка, гары,
Свой промень зыркі раздувай.
Няхай ён ззяе з краю ў край...
Хто спіць да гэтае пары —
Ўставай!

*(«Работніцкая і сялянская рэвалюцыя», 1918).*

З лютага 1918 г. Гартны працаваў у Беларускім Нацыянальным Камісарыяце пры ўрадзе РСФСР і быў рэдактарам першай савецкай газеты на беларускай мове «Дзянніца». У тым жа годзе ўступіў у члены Расійскай Камуністычнай партыі (бальшавікоў).

Ацаніўшы заслугі Гартнага перад народам і Радзімай, партыя бальшавікоў рэкамендавала кандыдатуру пісьменніка-камуніста на пасаду старшыні Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі.

Далейшае развіццё падзей Кастрычніка і жыватворны ўплыў бальшавіцкай партыі садзейнічалі станаўленню светапогляду пісьменніка. Партыя дапамагала яму ўсведаміць, што толькі праз паглыбленне сацыялістычнай рэвалюцыі ажыццяняцца адвечныя мары працоўнага народа. Рэвалюцыя акрыліла паэта, спрыяла прыліву новых творчых сіл. Гартны зразумеў, што толькі сацыялістычная рэвалюцыя і здольна вырашыць сацыяльныя і нацыянальныя пытанні ў карысць прыгнечаных народаў. Вось чаму, калі пачалася грамадзянская вайна і замежная інтэрвенцыя і над Радзімай навісла пагроза заняволення і каланіяльнага рабства, Гартны першым з беларускіх пісьменнікаў аддаў свой талент мастака, сілу і энергію на службу савецкаму народу. У савецкіх органах друку адзін за другім паяўляюцца яго вострыя, поўныя грамадзянскага і палітычнага пафасу публіцыстычныя артыкулы, фельетоны, вершы, у якіх ён заклікаў беларускі народ уступаць у рады Чырвонай Арміі і са зброяй у руках абараняць заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі, абараняць чэсць і свабоду роднага краю ад іншаземных захопнікаў.

Летам 1919 г. Гартны па партыйнай мабілізацыі едзе на Паўднёвы фронт, у 14-ю Армію, і прымае актыўны ўдзел у барацьбе

Чырвонай Арміі супроць дзянікінскіх банд. Затым пераведзен у штаб Заходняга фронту (гор. Смаленск).

Непасрэдны ўдзел у грамадзянскай вайне даў магчымасць пісьменніку сабраць багаты матэрыял для творчасці. Паэтычныя і празаічныя творы таго часу сведчылі аб тым, што Гартны настойліва шукаў новага героя, імкнуўся паказаць нараджэнне і фарміраванне савецкага чалавека. Ён робіць спробу стварыць вобраз камуніста («Загадзя», 1920).

Факты жывой рэчаіснасці паслужылі пісьменніку матэрыялам для напісання апавядання «Чырвонаармеец Панкел Ліпа» (1920). Удзельнік імперыялістычнай і грамадзянскай вайны, Панкел Ліпа быў некалькі разоў ранены, многае перажыў, шмат чаму навучыўся. І ўсё ж палітычная свядомасць чырвонаармейца канчаткова не злажылася, яна толькі фарміравалася. Адсутнасць вестак аб родных, адзіноцтва, падрыхтоўка да новай адпраўкі на фронт выклікаюць у Панкела разгубленасць і нездавальненне. Гэта ўмела выкарыстоўвае сын багацеяў, прахадзімец Проў, які ўгаварвае Панкела здацца разам з ім у палон казакам. Панкел на некаторы час паддаецца абману Прова і гатоў стаць здраднікам Радзімы, але ў самы апошні момант ён зразумеў сваю памылку і хоча яе выправіць. Аднак Проў са сваімі хаўруснікамі даганяюць і забіваюць Панкела.

Апавяданне «Чырвонаармеец Панкел Ліпа» напісана ў псіхалагічным плане з вострым драматызмам дзеяння. Праз мастацкае абагульненне падзей аўтар даводзіць, што светапогляд людзей фарміруецца ў суровай і цяжкай барацьбе.

Апавяданні 1918—1923 гг. сабраны ў кнізе «Трэскі на хвалях», якая выйшла ў 1924 г. У творах зборніка асвятляецца гераіка рэвалюцыйнага часу. Перад чытачом паўстаюць вобразы новых, савецкіх людзей, паводзіны і ўчынкі ў час рэвалюцыі, грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі нізавых партыйных і савецкіх працаўнікоў.

Гартны стварае вобраз рэвалюцыянера-бальшавіка («Больш за ўсіх»). Платон Гічка — чалавек з глыбокім унутраным светам. Справу рэвалюцыі ён ставіць вышэй за ўсё. У яго асабістыя інтарэсы падпарадкаваны грамадскім. «Дзеля яе (рэвалюцыі — А.К.) ён ахвяраваў пачуццём кахання, пакінуўшы без адказу просьбу каханай дзяўчыны не выязджаць на падпольную працу пры немцах. Дзеля ідэі рэвалюцыі ён забываў бацькоў, не ведаючы, як і што яны жывуць, як іх становішча пад палякамі». У пад-

поллі, як гаварыў сам Платон, ён «сотні разоў быў на валаску ад смерці». Гэта энергічны, смелы і валявы, уважлівы да людзей і непрымірымы да ворагаў рэвалюцыі чалавек. Пасля выгнання белапалякаў з роднага мястэчка Маргі ён усю сілу і энергію аддае рабоце ў рэўкоме па наладжанню нармальнага жыцця ў мястэчку, па арганізацыі дапамогі Чырвонай Арміі і г. д. А калі павятовы камітэт партыі аб'явіў мабілізацыю камуністаў у рэўкомы, дзе не хапала здольных арганізатараў, то Платон Гічка, нягледзячы на тое, што дома аставалася адна хворая маці, а гаспадарка без гаспадара, першым адклікнуўся на заклік партыі. Нават яго таварыш па рэўкому Лукаш Цяўе думаў аб Платоне: «Вось дык натура! Пашукаць!.. Каб гэткіх ды больш!»[1] Не лішнім будзе зазначыць, наколькі актуальным і разам з тым новым у літаратуры быў тады вобраз рэўкомаўца-камуніста.

Не ўсімі і не адразу былі ўспрыняты ідэі Вялікага Кастрычніка. Сацыялістычная рэвалюцыя адначасова з'явілася і рэвалюцыяй у свядомасці людзей. Гэтая актуальная тэма і была ўзнята Гартным у яго апавяданні «Трэскі на хвалях». У аснову апавядання пакладзена класавая барацьба, якая адбывалася ў асяроддзі савецкай інтэлігенцыі. Настаўнікі Андрэй Камель, Сідор Браварка і іх таварышы выхоўваліся ў старой школе, дзе, як гаварыў настаўнік Плаха, «скалечылі нашу душу, зглумілі нашу самотнасць». Кожнага з іх прымушалі спяваць «Спасі, госпадзі» і «Божа, цара храні». Найбольш добрасумленныя, як Андрэй Камель, Плаха, з прыходам Савецкай улады душой і сэрцам успрынялі ідэі бальшавіцкай партыі. Новае жыццё паставіла іх на правільны шлях. Андрэй Камель становіцца загадчыкам аддзела асветы Вікурскага райвыканкома. Па іншаму шляху пайшоў Сідор Браварка. Застаўшыся заклятым ворагам Савецкай улады, ён кідае настаўніцтва і шукае цяплейшага месца — ідзе працаваць у прадком. Браварка жыў мінулым і стараўся «другіх утрымаць» у ім. З гэтай мэтай ён прыехаў з Проўска ў Вікуры ў час адпачынку. Але тут ён пераканаўся, што бліжэйшыя сябры, як Андрэй Камель і інш., адвярнуліся ад яго. Андрэй спачатку раіў, стараўся давесці, што Сідор «грунтуецца на пяску, на саломінцы...», і «пакуль вецер не выдзьмуў канчаткова з-пад ног гэтага пяску — трэба сысці з яго, каб не праваліцца ў бяздонне...» А калі пераканаўся, што Сідор «закаранелы манархіст... непапраўны», тады ён заявіў: «Не.

[1] Зборнік «Трэскі на хвалях». Мінск, 1924, стар. 132.

Болей ён (Сідор — А.К.) мне не таварыш... не магу цярпець — варочае...» Выкрываючы мары і намеры ворагаў савецкага народа і бальшавіцкай партыі ў асобе Сідора Браваркі і яго прыхільнікаў, Гартны даводзіць, што такія людзі і з'яўляюцца трэскамі на хвалях бурлівага савецкага жыцця.

Шмат якія тэмы, узнятыя ў зборніку, былі зусім новымі ў беларускай савецкай літаратуры.

Героі апавяданняў не надуманыя, а ўзятыя непасрэдна з жыцця. Выключную ролю адыгрывалі вобразы новых людзей, змагароў за савецкую ўладу, якія бязмежна любяць свой народ і радзіму. Яны былі актыўнымі памочнікамі партыі ў справе перавыхавання народных мас у сацыялістычным духу.

Недахопам найбольш слабых апавяданняў зборніка трэба лічыць тое, што іх аўтар не заўсёды ўмее багаты жыццёвы матэрыял пераплавіць у адпаведную мастацкую форму і ўсебакова паказаць характар савецкага чалавека. Залішнія падрабязнасці ў апісанні перашкаджаюць дынамічнаму развіццю сюжэта. Не вылучаюцца апавяданні і разнастайнасцю мастацкіх сродкаў.

Як у прозе, так і ў паэзіі Гартны паступова імкнецца адысці ад рамантычнага ўспрыняцця і асвятлення рэвалюцыйных падзей, вызваліцца ад рытарызму і схематызму і перайсці да стварэння рэальна існуючых вобразаў савецкіх людзей.

Доказам гэтага і з'яўляецца другая кніга апавяданняў Гартнага «Прысады» (1927), якая зрабіла значны крок наперад у творчым развіцці пісьменніка. Героі многіх апавяданняў — гэта будаўнікі савецкай улады з лепшымі рысамі чалавечага характару і пачуццяў.

Начальнік раённай міліцыі Астап («Прысады») выконвае цяжкую і небяспечную службу. Яго на кожным кроку можа сустрэць бандыцкая куля, але ён на гэта не зважае. Астап у самыя небяспечныя хвіліны складае рэальныя планы, якія накіраваны на паляпшэнне жыцця савецкага чалавека. Ён марыць замяніць граззкія калдобістыя дарогі шашою, абсадзіць іх маладымі прысадамі, а то і садовымі дрэвамі. Аўтар паказаў багаты ўнутраны свет будаўніка новага жыцця, яго ўменне выхоўваць людзей, яго веру ў чалавека. Сваімі гуманнымі адносінамі да сялян, якія былі вымушаны ссекчы некалькі бярэзін у прысадах, аўтар падкрэслівае, што стваральнікі савецкай улады, апрача выкарыстання адміністрацыйных праў, павінны валодаць і тактам выхавацеля.

У вобразе Вінцуся Шавеля — дэмабілізаванага воіна («Свае

блінцы»), аўтар паказвае, як рэвалюцыйная эпоха садзейнічае росту палітычнай свядомасці простых людзей. Вінцусь Шавель не хоча сядзець злажыўшы рукі, а імкнецца прынесці найбольшую карысць народу. Ён правільна разумее, што савецкая ўлада — «гэта жывая творчасць», яна ўсё павінна пабудаваць і дабудаваць. І толькі дзякуючы яго намаганням «з мліна вырас цэлы камбінат», які пачаў служыць народнаму дабрабыту і разбураць крыніцы нажывы такіх нэпманаў, як Крэкес і падобныя яму.

Новай тэмай для беларускай савецкай літаратуры было і апавяданне «Гаспадар» (1928). У ім пададзена фарміраванне характару нашага рабочага. Якаў Гузік — радавы рабочы — лічыць сябе гаспадаром завода. Ён непрымірыма адносіцца да безгаспадарнасці і аберагае народнае дабро, як і сваё ўласнае.

* * *

Найвялікшай гістарычнай падзеяй у жыцці савецкага сялянства з'явілася калектывізацыя сельскай гаспадаркі. Тэма калектывізацыі ў творчасці Гартнага заняла значнае месца. У 1930 годзе ім напісана апавяданне «Пахучы зяб», а праз год аповесць «Зялёны шум». Абодва творы разам з апавяданнямі аб жыцці рабочага калектыву завода ўвайшлі ў зборнік «Гоман зарніц» (1932). Сам працэс сацыялістычнай рэканструкцыі вёскі і тая вострая класавая барацьба, якая разгарнулася ў гэты перыяд, давалі багаты матэрыял для творчасці пісьменнікаў. І Гартны бярэцца за больш шырокае эпічнае палатно. Ён піша раман «Перагуды», які быў закончаны ў ліпені 1935 г. і ў скарочаным выглядзе друкаваўся ў часопісе «Полымя».

Каля двух год (1930—1931) Гартны правёў у асяроддзі рабочага калектыву завода «Камунар» (зараз завод імя Кірава, г. Мінск). Пісьменнік знаёміўся з працай ударнікаў і ўдарных брыгад, брыгадзіраў і майстроў, тэхнікаў і інжынераў. За час знаходжання на заводзе Гартны напісаў вялікую колькасць нарысаў, вершаў і апавяданняў, якія выданы асобным зборнікам «Наступ на горны» (1932). Героямі твораў былі рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі.

На актуальныя тэмы з жыцця працоўных Савецкай Беларусі (прыход у літаратуру пісьменнікаў з асяроддзя рабочага класа, барацьба з бракаробамі і прагульшчыкамі на вытворчасці і г. д.) напісаны і такія апошнія творы пісьменніка, як «Першы твор», «Касьян Рулін», «Калгаснік Трыхон Жарольца» і інш.

Наогул кажучы, творы Ц. Гартнага паслякастрычніцкага перыяду вылучаюцца навізной тэматыкі. Яны напісаны на самыя актуальныя тэмы нашага часу. Само жыццё, шырокі поступ сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне падказвалі тэмы для твораў пісьменніка.

Праўда, не ўсе тэмы, узнятыя Гартным, пададзены ім па-майстэрску. Сіла мастацкага адлюстравання рэчаіснасці ў творах пісьменніка нераўнамерная, дакладней кажучы, неўраўнаважаная. Часам у адным і тым жа творы побач з вобразамі, радкамі, урыўкамі, заслугоўваючымі пераймання, ёсць і схематычныя, невыразныя, бедныя па моўнаму матэрыялу. Так, напрыклад, творы, увайшоўшыя ў зборнікі «Гоман зарніц» і «Наступ на горны», якія ўпаміналіся намі вышэй, не вылучаюцца мастацкай дасканаласцю. Аднак і сярод іх ёсць такія, якія заслугоўваюць быць адзначанымі.

Найбольшы след у гісторыі беларускай савецкай літаратуры Гартны пакінуў як майстар апавядання і выдатны публіцыст. Нават такія першыя апавяданні савецкага часу, як «Чырвонаармеец Панкел Ліпа», «Дойдзем, сынок», «Трэскі на хвалях», «Больш за ўсіх», «Прысады» і інш., і больш позняга часу, як «Гаспадар», сведчаць аб тым, што іх аўтар умеў знайсці ў жыцці тое галоўнае, на што неабходна было мабілізаваць увагу савецкага чалавека. Погляды сваіх чытачоў аўтар накіроўваў на фактары, якія характарызавалі рэвалюцыйны энтузіязм эпохі.

У апавяданнях пісьменніка тых гадоў было шмат лірычнай узнёсласці, жыццесцвярджальнага аптымізму («Больш за ўсіх», «Прысады» і г. д.). Але ўсё гэта не збядняла, а ўзбагачала ідэйна-мастацкі змест апавяданняў Гартнага. У іх аўтар імкнуўся прааналізаваць складаныя працэсы, што адбываліся ў душы савецкага чалавека, перадаць рост свядомасці і шляхі станаўлення яго характару.

Высокую ацэнку творчасці Гартнага даў усесаюзны чытач пасля азнаямлення з творамі пісьменніка ў перакладзе на рускую мову. Выказваючы думкі дваіх чытачоў, «Красная газета» (1929, № 62) пісала тады: «Гартный... весь в революционной динамике общественного подъёма, энтузиазма, борьбы и глубокой убежденности... Его герои... всегда готовы броситься вплавь и без оглядки в бурлящее море Октябрьской революции, жертвуя всем личным, горя и зажигая окружающих подлинным социальным энтузиазмом».

Заслужаную пахвалу ў адрас пісьменніка выказала і газета «Известия» (1929, № 40) у сувязі з выданнем зборніка «Аповесцей і апавяданняў» Цішкі Гартнага на рускай мове. Яна пісала: «Его (Цішкі Гартнага — А.К.) рассказы, посвященные в основном гражданской войне и мирному строительству, проникнуты сильным, здоровым, упорным оптимизмом созидающего класса...»

Разам з гэтым пастулова расло і апавядальнае майстэрства пісьменніка. Сведкай творчага росту Гартнага-апавядальніка можа з'явіцца адно з яго апошніх апавяданняў — «Смерць Германа Васэрмана» (1930), напісанае на антыфашысцкую тэму. У ім пададзена рэвалюцыйная барацьба працоўных Германіі супраць фашызму.

Бухгалтар адной нямецкай фінансавай установы Герман Васэрман усёй душой і сэрцам любіць Савецкі Саюз — краіну сацыялізма. Ён вядзе перапіску са сваім сябрам Змітрам з СССР. Вобраз Германа Васэрмана паўстае перад намі жывым, паўнакроўным. Чытач разам з Германам абураецца супраць нечалавечнасці шэфаў, якім быў падначален Герман, і паліцэйскіх парадкаў у нямецкіх установах. Мы шчыра шкадуем Германа, калі ён хварэе і дачасна памірае.

Апавяданне вылучаецца кампазіцыйнай стройнасцю, чытаецца з цікавасцю.

Класікі нашай літаратуры Я. Купала і Я. Колас высока цанілі творчую і грамадскую дзейнасць свайго сябра па пяру. Аб гэтым гавораць іх вершы, прысвечаныя Гартнаму.

Адзначаючы 15-гадовую літаратурную дзейнасць Цішкі Гартнага, Я. Колас у вершы «З. Жылуновічу» пісаў:

Нікла ў цемрадзі дарога,
Даль глядзела злосна-строга,
Нібы ліха насланое.
Але выйшаў ты ў пуціну,
Каб за родную краіну
Цвёрда сцяг падняць чырвоны...

Творы Гартнага чытаюць і ведаюць не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі. У савецкі час яны перакладзены на многія мовы народаў СССР і замежных краін. Вось і нядаўна Дзяржаўнае выдавецтва мастацкай літаратуры (Масква — Ленінград, 1962) выпусціла ў свет зборнік выбраных апавяданняў Цішкі Гартнага на рускай мове пад назвай «Гаспадар».

Гартны не толькі пісьменнік. Мы ведалі яго як грамадскага і дзяржаўнага дзеяча. Партыя і ўрад некалькі разоў пасылалі пісьменніка ў замежныя камандзіроўкі. Ён быў у Францыі, Германіі і Чэхаславакіі, дзе з прагнасцю вывучаў жыццё гэтых краін. Параўноўваючы яго з жыццём сваёй краіны, Гартны яшчэ мацней любіў яе. У час паездак Гартны пазнаёміўся і наладзіў цесныя літаратурныя і грамадскія сувязі з многімі пісьменнікамі і вучонымі гэтых краін. Ён сустракаўся і гутарыў з Юліусам Фучыкам і Іаганесам Бехерам, Андрэем Упітам і Здэнекам Няедлы, Іозефам Гора і інш. Некаторыя з іх былі прыцягнуты Гартным да супрацоўніцтва ў часопісе «Полымя».

Літаратурныя сувязі Гартнага насілі шырокі інтэрнацыянальны характар. Будучы цесна звязаным са сваім народам, паэт хутка знаходзіў агульную мову з пралетарскімі паэтамі іншых краін. Яму была заўсёды варожай нацыянальная абмежаванасць. Ён выступаў палымяным прапагандыстам пралетарскага інтэрнацыяналізму.

У вачах замежных сяброў Савецкай Беларусі Цішка Гартны быў актыўным культурным дзеячом і прапагандыстам новай, сацыялістычнай культуры.

*А. КЛАЧКО*

# «ЛАЙДАК»

Ужо падыходзіў канец дзесятае гадзіны раніцы, калі Палута вярнулася з травы. Ей і на гэты раз пашанцавала: стражнік не ўбачыў, і яна нажала два вялікія дапаўна мяшкі добрае паплаўное травы. Янкель, рамізнік, стрэўшы Палуту з травою, нічога не кажучы, адкупіў у яе абодвы мяшкі і яшчэ нават падзякаваў.

Гэта Палуту дужа ўзрадавала, бо яшчэ дагэтуль яна ні разу так удачліва не зарабляла.

Вясёлай ды здаволенай вайшла яна ў хату.

— Ну, цяпер крыху супачыну. Ужо сёння болей нікуды не пайду. Дзякуй богу, утаргавала і хопіць для мяне на нейкі час. Вось толькі трэ' было б збегаць на рынак

ды купіць хаця кавалачак сітніцы Хведарку,— уголас сказала яна сама сабе.

І, успомніўшы аб Хведарку, Палута кінула паглядам у запечак. Кінула паглядам і раптам сумелася, пацiснуўшы плячыма: замест Хведаркі яна ўгледзела старэйшага свайго сынка, Янку, які, скурчыўшыся абаранкам, ляжаў прытоена ў запечку. «Што то мае быць? — прабегла ў Палуцінай галаве.— Толькі тыдзень мінуў, а ён ужо і дамоў наведаўся».

— Янка, Я-а-начка-а! — уголас пазвала Палута і хутка падбегла да полу: — Ці ж гэта, Яначка, ты-ы? Чаго ты вярнуўся дадому, мой сынок? Можа, збег ад пана Замыжнага?

Але хлопчык нічога не адказаў на мацерыны запытанні: ён моўчкі, потайна ляжаў, баючыся паварушыцца, і відно было, як спуджана паморгвалі яго прыплюшчаныя вочкі.

— Ці ты чуеш, ці не? — гучней і злей гукнула Палута на сынка і штурханула яго рукою ў бок.

Янка раптам узварухнуўся, выпрастаўся і мігам падняўся.

— Мамачка, толькі не чапайцеся. Я вам сазнаюся — я збег ад пана Замыжнага. Вельмі ўжо там з мяне здзекаваліся: не кармілі зусім, білі, папіхалі, спаць не давалі. Я не мог сцярпець і... збег. Не беце, матачка-а... Не магу я служыць у Замыжнага, ні за што не магу і... не буду.

— Брэшаш, распуснік!

— Не, мамачка, дальбог не,— стукнуўшы кулаком у грудзі, пакляўся Янка.

Палута замаўчала і некалькі часу нічога не казала,

але скора да яе надышло сумненне, і яна вымавіла да сынка:

— А калі ты хлусіш, што тады будзе? Вось я толькі папытаю ў аканома Сідара, чакай...

— Не, ні каліва не хлушу, ні беднага... Папытайцеся сабе ў дзядзькі Сідара...— умольна гледзячы Палуце ў вочы, апраўдваўся Янка.

Але не паспеў ён дагаварыць свайго апраўдання, як пачуўся стук у акно, а за ім і голас знадворку:

— Палута! Палута-а, га?

Палута кінула Янку, барзджэй падбегла да акна і ўгледзела ў ім Сідара, аканома Замыжнага.

— Ага-а! Сіда-ар! Чаго ж гэта вы? — запытала яна Сідара, прачыняючы акно.

Сідар усміхнуўся і адказаў:

— Чаго! Да ты, пэўна, і сама дагадалася... Гэта ж...

— А што? — запытала Сідара Палута.

— Да, простая рэч, за хлопцам прыехаў. Узяў учора ноччу і збег. Кінуў-рынуў у полі стада, а сам, займаздароў, драла. І ліха ведае, колькі ўчыніў шкоды: у сенажаць, ведаеш, рынула ўсё стада і нашчэнт здратавала з дзесяціну поплаву. Эх, такі ўжо, галубка, распусны ён у цябе, такі мудрагельны хлапец, што не дай ты рады. Пэўна, заснуў у пасецы, выпусціў з ваччу стада і з пярэпалаху ўцёк дахаты... Напэўна ж, я думаю, ён у цябе ў дому?

Сідаравы словы не былі наўдою для Палуты: яна зразу, толькі што ўгледзела ў хаце Янку, думала гэта. Да кляцьбы і запэўнення свайго сынка Палута аднеслася з поўнаю няўвагаю. Нават і думкі не дапускала, што яе сынок запэўняе шчыра. Чамусьці яна верыла словам аканома Сідара. Толькі ён скончыў запытанні, як Палута ад-

вярнулася да запечку, дзе насуплена стаяў Янка, і злосна прыкрыкнула на яго:

— Ці ты чуеш, адшчапенец, што дзядзька кажа? Каб цябе паралюш задушыў. Ну ж, я табе пакажу, зараза.

— Ша-ша! — перапыніў Палуту Сідар.— Крычаць — то ўжо ты не крычы на яго... Па-добраму лепш скажы, угавары яго болей так не рабіць...

— Го! не! Я-а яму пака-ажу! Эх, эх! І што мне рабіць з гэтым разбойнікам... светам круціць, на яго ліха...

Яна злосна скрывіла міну, сашчапіла кулакі і намерылася кінуцца на хлопчыка.

— Янка-а! Га, Янка-а! Хутка адзявайся і мігам з дзядзькам Сідарам назад да пана Замыжнага. Барздджэй! — прыказала яна хлопчыку.

— Мамачка, родненькая, што хочаце са мною рабеце, куды хочаце пасылайце — толькі пазбаўце ад пана Замыжнага. Ён замучыць мяне... Там я з голаду памру. Не адпраўляйце мяне з дзядзькам Сідарам... Я з ім не паеду; ён вам няпраўду пра мяне наказаў...— з плачам у голасе, з мінаю на твары, якая выказвала глыбокую просьбу, умольна казаў да мацеры Янка.— Я ўсё роўна там не застануся, калі мяне туды сілаю завязуць. Уцяку, кіну... павешуся лепей ці ўтаплюся, а не ўслужу...— ужо з пагрозаю дадаў ён.

— Як?! Ты мяне яшчэ страшыць уздумаў? Вось я табе дам — павешуся! Бяры андарак ды шапку і гайда назад! — узлаваўшыся да чырвані, крычала Палута.

Янка спужаўся мацеры і паслушна злез з полу, зняў з кручка халацік ды шапку і, уздзеўшы іх, паслушна выйшаў з хаты.

У двары сустрэў яго Сідар. Хапіўшы за руку Янку, ён жартліва сказаў:

— Кінь журыцца, нябожа; пакуль жаніцца — загаіцца... Вось забывай усё, лезь на воз і паедзем.

Янка нічога не адказаў Сідару. Галодны ад учарашняга і аслаблы, але не могшы папрасіць у мацеры есці, ён пайшоў да воза і ўсеўся на мяшку з саломаю.

— Янка, Яначка! — радасна кінуўся да яго Хведарка, прыбегшы аднекуль і ўгледзеўшы брата на возе:— Вазьмі і мяне з сабою, я хачу пад'ехаць — я так доўга не катаўся.

Янка нічога не адказаў і братку: ён мэрам і не слухаў, што яму так рад і так шчыра сустрэў яго зусім нявінны ні ў чым Хведарка. Нават і вокам не кінуў на яго, калі пакрыўджаны Хведарка адышоў ад воза, сеў на прызбе і набочыўся.

Не зважаючы на дзяцей, Сідар каля пяці хвілін аб нечым пашаптаўся з Палутаю, а пасля адвязаў каня і крануў з месца.

— Бывай здарова, Палута! — сказаў ён да Палуты і і паківаў галавою.

— Бывайце здаровы, ягамосць Сідар...— дабрадушна адказала Палута і следам дабавіла: — Вы ўжо там не патурайце яму, ушчувайце добра, калі трэба; я яшчэ падзякую вам за гэта... Што з ім цырымоніі разводзіць!..

Сідар засмяяўся і пагнаў каня.

— Што ж, Янка, засмуціўся? Баішся ехаць? Кінь нудзіцца! — абярнуўся ён да Янкі.

Янка маўчаў. Гурток цікавых дзетак, якія сабраліся вакол воза, а цяпер расступіліся і глядзелі, як той аддаляўся, крычалі ўслед Янку розныя выказы: «Вярніся, Янка», «Прывязі яблык, як паспеюць», «Прыязджай на Пётру». У грамадку дзяцей замяшаўся і Хведарка.

Палута ж, толькі Сідар пагнаў каня, пакінула надворак і вярнулася ў хату. Усё, што здарылася з яе сынком, мэрам і не было — адышло на задні план, забылася.

Удачлівы заработак і чародныя клопаты жыцця нахлынулі ёй у галаў і запаланілі Палуту.

І толькі спусціўшы якую гадзіну,— ужо паспеўшы натупацца, збегаць на рынак і вярнуцца назад,— яна выпадкова звярнулася думкамі да Янкі; звярнулася і тут жа ўспомніла, што яна нічога не дала яму есці. Палуту ахапіла мацерына пачуццё спагады да свайго дзіцяці, і яна тужліва прамовіла сабе:

— Ах, на дзіва, на ліха мне! Я ж і перакусіць яму нічога не дала! Можа і сам ён нічога не браў? Пэўна, што не. Пэўна, што галодным паехаў, небарака, бо што ж ён мог знайсці? Ах, і прыгнала яго нядобрае, гэтага заразу Сідара!..

---

Прайшоў цэлы тыдзень пасля гэтага. Была нядзеля. Палута, заклапочаная штодзённым жыццём і яго вымаганнямі, ні разу не ўспомніла пра Янку: не бачыла перад сабою, і здавалася ёй, што малы спакойліва і памяркоўна нясе сваю службу.

Але ў нядзелю зранку, зусім знянацку, штосьць нейкае перавяло Палуціну думку на Янку: «А маладзец, сынок! Бадай, прыладзіўся і цяпер паслухмяна выпаўняе службу. Не пашкодзіла, нябось, што ўшчунула добра».

І толькі Палута выпусціла гэту думку, як знадворку данёсся ў хату знаёмы голас:

— Палута-а! Палутка-а!

Палута ажно здрыганулася ўсёй постаццю і мігам кінулася да акна. Зірнула — і разам падалася назад, нібы яе хтось адпіхнуў. «Ізноў Сідар!» — прамігнула ў яе

галаве палахлівая думка. А Палуце падумалася, што гэта не думка, а непрытомны міжвольны выгук...

— Сідарка-а, чаго-о вы ізноў?! — праз які час стрэла яна Сідара, які пераступаў парог у хату.

— Я... я... і нават з дрэннаю весткаю...— з нарачытаю асцярогаю, працягваючы рукі да Палуты, гаварыў Сідар.

— А што, што, што??! — не могучы ўстаяць на нагах, запытала асавелым голасам Палута.

— Палута-а... Шша-а... супакойся-а... бедная... Твой Янка-сь... утапіўся-а... Вунь на возе яго цела... Ідзём узяць. Учора вынялі з сажалкі... Толькі і знайшлі, што ўгледзелі недаплецены кошык на беразе...— казаў Сідар, бязмоцны, каб спыніцца, ад горнасці і спагады да кабеты.

Палута ж ужо не магла нічога казаць: плач сціснуў ёй сэрца да болі.

Сідар кінуўся да яе, каб падтрымаць, але і сам чуў, як калаціліся яго рукі і поцем засцілаў вочы...

А з усходняга канца мястэчка, праз тры дробных акенцы, даносіўся ў хату гучны трызвон: то званілі на абедню.

# ВЕЛІКОДНАЯ КАРОБКА

## I

У чысты чацвер, калі Антось Ступа вярнуўся дамоў з падзённае работы ў Іцкі, у якога ён гарадзіў платы, двое дзетак яго, Сёмка і Прузя, спаткалі на вуліцы і, хапіўшы бацьку за полы, у адзін голас запыталі:

— Татачка, родненькі, ці вы купіце мукі на пірагі і парасятка? Ужо ўсё сённека неслі з места і парасят, і муку, а наша мама нічога не купіла.

Антось Ступа паглядзеў на бедных замурзаных дзетак, пагладзіў кожнага з іх і суцешна адказаў:

— Купім і мы, мае вы блазноткі, і мукі, і парасятка. Справім каробку.

Дзеткі задаволена пapляскалі ў далоні, весела зарагаталі і ўперадзе бацькі пабеглі ў хату.

— Мама, мамачка,— крычаў першым Сёмка, падбегшы да мацеры, якая ў сумным настроі сядзела каля мыцельнікавага акна, аб нечым думаючы.

— Вось ідзе татка з Прузяю! Ён казаў нам, што і мы купім і мукі на пірагі, і парасятка. Папрасеце, мамачка, каб ён хутчэй гэта зрабіў.

Маці — Юстына, бледная, шчупленькая маладзіца, раўнадушна паглядзела на дзетак, колькі хвілін памаўчала, даўшы Антосю прысесці ў запечку, пасля гняўліва вымавіла не то да яго, не то да дзяцей:

— Плявузгае ліха ведае што. Дражніць дзяцей, на яго цураха. А грошы, бадай, не прынёс ад Іцкі, каб хаця хлеба купіць к святу, бо ўжо толькі акрайчык на стале... Няхай ужо людзі спраўляюць каробкі, а мы... пражывём святы і так... хаця б быў хлеб...

Пакуль Юстына казала гэта, дзеткі дапытлівымі ўзрокамі вадзілі ад бацькі да мацеры і здзіўлена пераглядаліся паміж сабою. Калі ж маці замаўчала, Сёмка ўпінна праказаў:

— А чаму ж ува ўсіх будзе каробка, а ў нас не?

— А таму, што ўсе багацей ад нас: і свой хлеб маюць, і назараблялі яшчэ грошы з фурманамі, а твой бацька праз усю зімку і капейкі меднае не зарабіў... Бачыш, не рамеснік ён у нас, дый досціпу няма, непракідкі ні каліва, ні звання...

Дзеці пераглянуліся паміж сабою, не ведаючы, што казаць.

— Вучы дзяцей бацьку не ўважаць! — паднятым голасам выгукнуў Антось да жонкі.— Папрабуй ты зарабі... заробіш! Дзе ты тут заробіш! Пэўна, каб быў раместнікам, та было б лепей, але што ж зрабіць, калі бацькі не навучылі. Упхнулі ў грабары змалку — і мушу

цяпер зямлю капаць... Што ж, зімою не ўкапаеш... Гэта не языком мянціць... Вось добра, што да вясны працягнулі...

Юстына, праслухаўшы гаспадара, замоўкла і адвярнулася ў акно: ёй паказалася, што яна дарэмна ўпікнула яго і на гэты раз. «Антось кажа праўду, што ён нявінен у нашым бяздольным жыцці. Пэўна, суджана ўжо так»,— парашыла яна сама з сабою. І ёй стала ніякавата перад гаспадаром, што кожны раз у цяжкім адчаю яна вінаваціць яго за іх дрэннае становішча.

Юстына паглядзела на Антося і, убачыўшы яго пакорліва маўклівую міну, папікнула сябе за сваю нецярплівасць перад ім. Разам у яе вынікла спагада да мужа і патрэба папрасіць выбачэння за рэзкі непуцёвы напад.

— Ведаеш, Антось, я ж зусім не віню цябе. Мне так горна і цяжка на душы, што я мімаволі вазьму і пакрыўджу цябе,— як бы перапрашаючы, сказала Юстына.— Падумай сам, ці ж лёгка ўгаварыць дзяцей, не даўшы ім куска булкі на святы. Яны ж чакаюць вялікадня як бога, думаючы, што гэтак, як у людзей, угледзяць і сёе і тое... Ды з боку суседзяў ніякавата зусім: кажуць — «і на каробку не маюць».

— Ну што ж, не маем,— адказаў Антось.— Тут не вялікая ганьба. Будзе заўтра час — будзем мець... А з дзецьмі — няпраўда, авось заўтра паспрабую расстарацца грошы, і купім мукі: мо' сышчу ў Іцкі за сённяшні дзень, а то дапазычу ў Ермалая — і зладзім сёе-тое, хоць з большага...

Антось абярнуўся да дзетак, якія заспакоена слухалі бацькаўскую размову, прытуліўшыся каля прыпеку.

— Нічога, малыя, я вам расстараюся к вялікадню сяго-таго. Будзе і булка, будзе і парасяціна... Вось прасеце ў мацеры вячэраць ды лажэцеся спаць.

Дзеці палезлі за стол, а Юстына завінулася каля печы.

## II

Назаўтра Антось Ступа зноў пайшоў у падзёншчыну да Іцкі. У яго з самага ранку, толькі што прачнуўшыся, склаўся гатовы план вызыску грошы к святам. У абед, разлічаў Антось, ён зойдзе да Іцкі і возьме плату за два праробленыя дні, а вечарам, ідучы дахаты, заскочыць да Ермалая пазычыць з рубель. Чамусьці Антось ні каліва не сумняваўся ў тым, што яго разлікі спраўдзяцца, і спакойна, нават з лёгкай бадзёрасцю, справодзіў работу. За работаю зусім не прымеціў, як праскочыла паўдня. У абед Іцка падышоў да яго і запытаў:

— Што-о, Антось, мусібыць ты сённека абедаць не пойдзеш?

Антось выкарыстаў гэта, каб папрасіць у Іцкі грошы.

— Пане Іцка,— абярнуўся ён да Іцкі.— Я ўжо сам хацеў ісці да вас прасіць грошы, а як вы падышлі ка мне, та тым лепей. Ведаеце, святы прыйшлі, а ў мяне яшчэ нічога не куплена. Вось, можа, будзеце ласкавы, ды заплаціце мне за гэтыя два дні? Га?

Іцка пагладзіў бараду, патрос галавою, ухмыліўшы вочы, і адказаў:

— Не маю, браток. Хіба па святах ужо... Мне вось вінны людзі, ды таксама адказалі аддаць да свят... Ведаеш, у нас субота, а я без капейкі застаюся.

Антось зусім быў азадачаны словамі Іцкі; ён не хацеў верыць, што той кажа сур'ёзна, і разам з гэтым дрыжаў

ад нейкага не то сполаху, не то проста няёмкасці, што намалёваны ім з рання план трымаецца на валаску. Іцкава міна і тон у голасе, зусім спакойныя і бяспечныя, збівалі з панталыку Антося. «А ну ж Іцка на жарты гаворыць? Ці проста па сваёй натуры»,— падумаў ён і яшчэ папрасіў у Іцкі:

— А ўсё-ткі, пане Іцка, пашукайце, а мо' і знойдзеце. Тут жа не так ужо многа. Не можа ж быць, каб вы былі без грошай. Вы не абышліся б і паўдня. Пашукайце, прашу вас, а то мне грозіць астацца на вялікдзень з пустымі рукамі. Апроч вас, зусім нельга нідзе дастаць...

Іцка зрабіў тыя ж самыя кіўкі і рухі, што і перш, і так жа спакойна адказаў:

— Які ты, Антось, цудны! Або ж я не ведаю твайго становішча, ці што? Тут не ласка, а павіннасць: грошы табою зароблены, і я мушу табе іх аддаць; і аддам, толькі ўжо не сённека. Так выпала, ведаеш, што якраз няма.

— То, можа, к вечару адшукаеце дзе? — запытаў Антось.

— Дзе... Ужо шабас надыходзіць. Дзе там дастанеш! Няма, браце... Нават і не спадзявайся.

— Няма? Ах, што ж я рабіцьму? — горна выказаў Антось, хапіўшыся аберуч за галаў: — То ж прыйдзецца на свята без хлеба астацца-а...

— Як? Чаму? Няўжо ў цябе падышло да таго? Ці ты маеш лад? То будзе вельмі крыўдна, калі так. А хіба ж ты на павер не можаш дастаць? Зайдзі да Хрумы ці да Моталя і папрасі: яны павінны даць... Вось цяперака, у абед... Ужо вечарам адробіш... Трэба ж, вядома, к вялікадню сёе-тое купіць, я ведаю па сабе...

Антось нічога не адказаў, а моўчкі кінуў работу і пайшоў дахаты. Ідучы, ён пільна раздумваў над праваленым

— Ды так... Я паспрабаваў крыху націснуць на нашу нядбайнасць, як атрымаў адбой... Не падабаецца некаторым...

— А ласне на нашым заводзе гэта наглядалася?

— Таварыш Фанарнік, вы хіба не бывалі ў нашых майстэрнях?..

— Вы за мяне...

Фанарнік пачырванеў і рушыў з-за стала...

— Вас не было, і, безумоўна, я мусіў за вас...

— Так, гм... ці надоўга...— У скрыжаваным тупанні па канторы Фанарнік знянацку наткнуўся на Якава Гузіка. Абодва папрасілі адзін у другога прабачэння і разышліся на значны адгон...

— Я не ведаю, чым я вам замінаю?..— праказаў Якаў Гузік і азірнуўся да дзвярэй.

У гэты момант у кантору ўбег майстар слясарнай Лазар.

— Я болей не магу так... Гэта чысты крымінал... Як назнарок... Учора зламалі варштат, дык даў выгавар. А сёння прыходзяць з эркаі і абвінавачваюць у грубых адносінах да рабочых... Я пытаю ў вас аднаго, таварыш Фанарнік, ці мы павінны ламаць машыны з падзякаю, ці нам... Я болей не магу так; я прашу зняць з мяне абавязкі загадчыка майстэрні...

Фанарнік крыху памаўчаў, пасля адвярнуўся да Якава Гузіка і праказаў:

— Пайдзеце з таварышам Лазарам і высніце, у чым рэч...

— Давайце ўсе разам пойдзем,— пазваў Фанарніка Якаў Гузік.

Фанарнік падняў вочы ўгору, паглядзеў крыху на замусленую люстру пад столлю і адказаў:

— Я маю больш важныя справы, таварыш Гузік. Мне да нядзелі трэба прадставіць падрабязны план перспектыўнага развіцця нашага завода... Я буду прасіць вас...

— Але ж вы ўжо болей трох тыдняў, як не былі ў заводзе... Я хоць пакажу вам тое, што ў вашу адсутнасць завёў... Ці ўхваліце вы, ці можа...

— Я згодзен з усімі вашымі наваўводамі, але ж павінны зразумець, што на мне ляжыць...

Фанарнік нервова падбег да пісьменнага стала, адчыніў шуфлядку і пачаў выцягваць з яе кіпы папер. Яго вочы пугліва бегалі па дробным шрыфту зялёных і сініх літар, па няроўных радкох рукапісаў. У тоўстых, мазалістых руках камячыліся дакладныя запіскі, праекты, планы, разважанні. Па ўсцішанай канторы хадзіў раз'юшаны шам і шорпат папяровых лістоў.

Якаў Гузік спадылба сачыў за ўсім гэтым, несупынна прапускаючы тварам нецярплівую ўхмылку. Побач яго стаяў Лазар. Гэты натужна чакаў, чым кончыцца цягучая, густая маўклівасць, і азіраўся ў акно. Ён перапалохаўся, калі раптам Якаў Гузік мерскануў яго за полу і пацягнуў да выйсця.

— Вось табе прыклад увагі,— праказаў ён да Лазара за дзвярыма.— А пасля скажа, што без яго я не мусіў...

Лазар згодліва паківаў галавою.

— Я разумею, таварыш Якаў, што табе вельмі цяжка ў гэтых умовах працаваць... Толькі скажу адно — цябе рабочыя паважаюць... Я пераканаўся цвёрда. Бачыш, як праводзілі тваю прамову на нарадзе? Як прагліва лавілі кожны сказ твайго заключнага слова?.. Ды ў заводзе можна чуць шчырыя спагадлівыя водгукі аб

тваім кіраўніцтве. Не патурай на адзінкавыя выступленні. Гэта выключнасць. Гэта болькі, якія лёгка загояцца самі сабою. Зусім іншае са мною. Мне трэба пакінуць слясарную... Я не магу далей.

— На гэтыя болькі трэба добрага хірурга, таварыш Лазар,— не згадзіўся Якаў Гузік.— Пакуль яны загояцца, многа крыві атруцяць... Глядзі вось, ці гэта лад, каб сярод работы майстар пакідаў майстэрню і бег прасіць дапамогі?.. Ласне можна ўносіць падобныя перабоі ў працы?..

Абое да таго захапіліся гутаркаю, што не заўважылі, як падышлі да варот завода. Угледзеўшы іх здалёк, Самусь адчыніў дзверы і стаяў навыцяжку. Лазар паглядзеў на яго і штурхануў Якава Гузіка.

— З якога гэта часу? — шапнуў ён.

— Гэта?..

Якаў Гузік абарваў сказ на слове: ім перагарадзіў дарогу прадзаўкома Яўсей.

— Ідзяце?.. А я накіраваў па вас... Дзе таварыш Фанарнік? — Сухасць у яго голасе зацікавіла Якава Гузіка.

— Чаго ты на нас?

— Рабочыя прасілі; яны самахоць наладзілі сходку і хочуць акрэсліць да вас свае адносіны.

Для Якава Гузіка Яўсеева паведамленне было нечаканым. Яго заінтрыгаваў і ў той жа момант нашарохаў сход рабочых. «Што б то было?» — кальнула думка. І, падганяны ёю, Якаў Гузік хутка зашагаў да завода. Лазар пайшоў за ім, а Яўсей заднім...

Яны былі каля дзвярэй у завод, як на дзядзінцы паказаўся Фанарнік. Учатырох, адзін за другім, яны ўвайшлі ў майстэрні завода і кучкаю згрудзіліся ў пра-

ходзе паміж фрэзеровачнай і сталярнай. Прайсці ўглыб было нельга: перад імі тоўпіўся мітынг, слухаючы імправізаванага прамоўцу. Стоячы на сталярным варштаце, з гэблем у руках, прамоўца гукаў: «Я сведчу ад усяго нашага цэха, што Якаў Гузік — найлепшы таварыш. Ён ні разу не пераступіў мяжы таварыскіх адносін... Нам трэба раз назаўсёды сказаць — досі тузаць нашу адміністрацыю за няма нішто. Паводзіны некаторых з нашых таварышаў павінны быць знішчаны... Што гэта — служба агульнай справе ці дзяльба чужога?»

Яшчэ не сціхлі з боку рабочых гукі адабрэння яго словам, як чарговы прамоўца з тымі ж палкасцю і рашучасцю бараніў Лазара: «Ніхто не скажа без задняй думкі, што Лазар — дрэнны гаспадар. Ніхто, за выключэннем рэдкіх ядынак, не паскардзіцца на яго адносіны да нас. Трэба адкрыта сказаць, што таварыш Лазар дрэнны майстар для дрэнных рабочых. Нельга папускаць разбазыранасці ў часе працы. Няможна патураць дураслівасці... Вы, таварыш з рабоча-сялянскае інспекцыі, так і запішэце... Мы ні ў чым не вінавацім ні Якава Гузіка, ні Лазара Стукалкі». Апошнія словы прамоўцы зліліся ў гучных воплесках сходу, які, сцяною павярнуўшыся да месца, дзе стаялі Якаў Гузік, Фанарнік, Яўсей і Лазар, гукалі «брава»...

— Я вельмі рад, таварышы рабочыя, што вы...— зрабіўшы два крокі наперад, загаварыў расхваляваным голасам Якаў Гузік...— У мяне не хапае падзякі, якую я мушу вам падаць за вашу ўвагу... не да мяне, не да Лазара, а да тэй працы, да тае справы, на якую мы разам з вамі пастаўлены. Я веру...

Гучны, урачысты свіст сірэны падхапіў яго словы і панёс далёка-высока па-за сцены завода.

# СМЕРЦЬ ГЕРМАНА ВАСЭРМАНА

Герман Васэрман выцягнуў апошні глыток кавы і паглядзеў на гадзіннік.

— Маю дзесяць хвілін у загоне... Ага, я не дапісаў ліста...

Ён разгарнуў складанае крэсла і ўзяўся за асадку.

«...Твая краіна выйшла на шырокую дарогу сацыялістычнага будаўніцтва. Кожны рабочы, кожны бядняк-селянін маюць акрэсленае заданне ў справе вялікай адноўчай працы... Наперадзе вызначаюцца празрыстыя мэты... Я зайздрошчу вам, дарагі Зьмітро, і мучуся бязволлем апынуцца ў шэрагах вольных рабочых вашага Саюза... Мая радзіма, ахваленая цывілізаванай, стогне ў цісках капіталістычнае рацыяналізацыі. Тры мільёны

беспрацоўных заліваюць сваёю скаргаю векавыя назбіранні буржуазнай культуры... Ты б паглядзеў зараз на нашу сталіцу: нордэн і остэн заліты слязьмі,— вестэн заліваецца віном... Ярмо плана Юнга абракло на мукі тры пакаленні нашых рабочых...»

Герман падняўся, злажыў крэсла, адсунуўшы яго на вызначанае месца, і выйшаў на вуліцу.

На трамвайнай станцыі, дзе ён хутка ачуўся, грамадзілася да сотні чалавек. Павольна рухаючы, трамвай не мог падабраць людзей, што падыходзілі.

— І тут рацыяналізацыя... Муніцыпалітэт у руках сацыял-дэмакратаў, а толку ніякага... А яшчэ залічаюць сябе сябрамі працоўных. Ха-ха-ха! Сацыялісты!.. Фашысты, а не сацыялісты!..

На Германа паглядзела пара кашачых шэрых вачэй.

У левым стрыфлі драпястае жакеткі мігнулася чорная свастыка.

— Гакенкрэйцар [1]. Граміла...

Герман ускочыў на трамвай № 91 і паехаў у горад.

«Ці паспею?» — усумніўся ён, паглядзеўшы на гадзіннік.

Герман меў у сваім распараджэнні роўна дваццаць хвілін. Але ён да таго ўмеў іх выкарыстаць, што нізвання не баяўся спазніцца.

Каральштрасе, Вагнерпляц і чорная куфэркавая будыніна фінансамту... На перачот — Вольфгасэ, гезельшафтбанк, кіно «Rote Meuse» — і на месцы. Ці ж тут навіна? Дзень у дзень, вытаптаная дарога... Але хада без возіркаў, частым, паскораным тэмпам...

---

[1] Усечаныя крыжы фашыстаў.

Ён паглядзеў на шэры гадзіннік ратгаўскай башты і схаваўся за дубовымі варотамі чорнае будыніны.

Швейцар прывітаў яго знаёмым аднастайным, механічным «моен» і павярнуўся правым плячом наперад...

Абтайлюнг [1] быў у поўным зборы! Эрыка Мэер стукала па рэмінгтону, Генрых Кульбах вярцеў ручку арыфмометра, Вільгельм-Эрых Эске падпісваў паперы...

Пяты раз убягаў выкліканы з пярэдняе гезэле [2] Ота Шнэлер.

— Гут моен!

— Моен!

Герман адамкнуў шыфаньерку бюро і выцягнуў штоербух [3].

Тоўстыя і тонкія рысы ліній замігалі ў яго ваччу... заскакалі зялёныя і чырвоныя лічбы...

«Марта Бокс... сто дваццаць марак...»

— Можна?

З дзвярэй выглянула пажылая жанчына. Старая палярына на плячах паглыбляла і без таго глыбокую скаргу на худым твары.

— Вам што, пані? — запытаў Герман, ужо ведаючы прычыну з'яўлення жанчыны.

— Я прыйшла прасіць вас, ці не можна хоць на месяц адтэрмінаваць узнос штоеру... я праз месяц...

Герман бачыў яе ўчора... Што ёй сказаць...

— Звярнецеся да гехаймрата [4] гер Люд...

— Вас кліча гер Людвік да сябе... вас, гер Васэрман...

---

[1] Аддзел.

[2] Пасыльны.

[3] Падатковая кніга.

[4] Тайны саветнік.

— Папрашу вас, гер Кульбах, займеце гэту паню,— папрасіў Герман і выбег з пакоя.

За дзвярыма Герман пачуў у баку страшную кольку. Ажно спыніўся на момант і хапіў рукою за балючае месца. На лбе, вузкім і вострым, бліснулі каплі поту...

«Напэўна гехаймрат казацьме пра маю заяву... Адкажа, паган...»

— Вы да мяне, гер Васэрман?

Узнятая, каб саступіць на ніжэйшую сходку, гехаймратава нага апусцілася на месца.

— Моен, гер фон гехаймрат! Вы мяне клікалі?

— Прашу зайсці...

Гехаймрат працягнуў наперад рукі, уступаючы Герману дарогу, пасля апусціў іх і ўвайшоў у кабінет першым...

— Я вас здавальняю на палову... Добра?.. Болей ніяк нельга... Скарачэнне апарату... Павелічэнне выдаткаў...

Гехаймратавы вочы пранізвалі Германаў твар. Начальнік фінансамта прогся высачыць яго настрой, з якім Герман мае выказаць яму — гер фон Людвіку Гогенпіу — падзяку.

— Філен данк [1], гер гехаймрат! — адказаў Герман і далікатна схіліўся.

Герман выйшаў з гехаймратава пакоя і накіраваўся ў свой абтайлюнг.

Калі ён адчыніў дзверы, то зразу скмеціў, што Вільгельм-Эрых Эске нешта нашэптваў Генрыху Кульбаху...

Але Герман не звярнуў на гэта ўвагі і сеў за непарушаную штоербух...

---

[1] Многа дзякуй.

* * *

Пасля абедзеннага перапынку Герман адчуў, што ў яго нутры яшчэ больш неспакойна... Колькі пачасціліся, і да горла падступілі ўдушлівыя спазмы...

«Мне не трэба было есці маргарынавага штуле[1]...»

Ён хапіўся за бок і сціснуў зубы...

«Але ж на масла ўсё роўна не выстарчыць. Дваццаць марак падбавіў, а ўсё ўздаражала мо' ўтрая»...

Герман цішком, каб ніхто не бачыў, выняў зісподняе кішэні распачаты ліст і, адгарадзіўшыся рукою ад Эске, пачаў выкладаць на паперы пастаўшыя ў галаве сказы.

«Наша краіна ўвачавідкі нясецца ў бездань. Крывадушная, згодніцкая палітыка ўрада нямецкіх сацыялдэмакратаў вядзе яе да поўнага разбурэння... Адна надзея на прыход камуністычнай рэвалюцыі...

Дарагі Змітро! Я ўспамінаю той час, калі Чырвоная Армія набліжалася да Варшавы. З якім няцерпам чакаў я яе ў Берліне!.. Ды ці я адзін? Тысячы рабочых збіраліся каля вітрын газетных рэдакцыяў і прагна лавілі кожную вестку з вашай рэспублікі... Я плакаў... вашай часовай няўдачы... Прыйдзі б тады Чырвоная Армія ў Берлін, мы б даўно ўжо забыліся б і пра Версаль, і пра Даўэса, і пра Юнга, і пра буржуазны парадыс[2]... А зараз...»

Вільгельм-Эрых Эске падняўся з месца і закруціў свае вільгельмаўскія вусікі. Датыркаючы іх ражкоў, яго вострыя ўзрокі перакінуліся на Германаў стол.

---

[1] Бутэрброд.
[2] Рай.

— Вы скора падлічыце нядоімкі першага падраёна?

— Выбачайце, гер Эске... Ці не дазволіце мне сёння пакінуць працу да часу?

— А ў чым справа? Вам цяжка працаваць? Ці вы адвыкаеце ад работы? — наводна і з прыкметным хваляваннем скарамоўна насыпаў шэфабтайлюнг [1].

Яго шэрыя кашачыя вочы засвяціліся злымі агеньчыкамі.

Герман апусціў узрокі да стала, абураны тонам начальніка, і пасунуў наперад сябе тоўстую штоербух.

Недапісаны ліст схаваўся пад яе пераплётам, забыты Германам...

Эрыка кінула адбіваць на машынцы і ваўёркай прашмыгнула ў дзверы. Толькі мільганулі яе крэмавыя панчохі і маркоўна-жоўтая галоўка.

Герман сціснуў зубы і запоўніў пустую графу ў кнізе.

Але ён адчуваў, што працаваць далей яму ўсё роўна нельга. Ён мусіць зноў звярнуцца з просьбай да шэфа.

Калі Вільгельм-Эрых адвярнуўся да акна, Герман спакойліва ўдвойчы праказаў да яго:

— Гер Эске, згадзецеся самі, што я не дарэмна вас непакою... Я літаральна валюся на стол... У маім вачу лётаюць мухі... Сярэдзіна кроіцца на часткі... Гер Эске, я запэўняю вас, што недапрацованы час я наганю з працэнтам...

Шэф падняўся з месца, адвярнуўся да Эрыкі, што ўбегла з дзвярэй, і ціха адказаў:

— Гер Васэрман няхай звернецца да гера гехайм-

---

[1] Загадчык аддзела

рата... Я без яго не кампетэнтны дазваляць яму датэрміновую адлучку са службы...

— Гер Эске, дазвольце прасіць вас звярнуцца да яго самім...

Праз некалькі хвілін нервовага маўчання Вільгельм-Эрых Эске паказна хапіўся за тэлефон, патрымаўся хвіліну-другую за трубку і, даючы выгляд, што перадумаў званіць, сказаў да Германа:

— На гэты раз я бяру на сябе адказнасць... Але ў другім разе я пашлю вас да гера гехаймрата... Можаце пакідаць абтайлюнг.

Яхідлівая міна на твары шэфа і яго жорсткія, надменныя сказы прайшлі паміж вушы Германа.

Абвостраныя болі ў баку прытупілі яго ўвагу да ўсяго акаляючага. Герман нават забыў злажыць штоербух і зачыніць бюро... Ціхімі няпэўнымі крокамі, кінуўшы ледзьве пачутае «аўфвідэрзейн» [1], ён выйшаў з абтайлюнга.

— Аўфвідэрзейн! — праказаў Герману Ота Шнэлер, адчыняючы яму дзверы на сходы.— Сёння будзеце на маніфестацыі ў Люстгартэне? [2] — цішэй запытаў ён удагонкі.

— Не ведаю... Не змагу, напэўна...

— А наш юнгштурм прыме поўны ўдзел... Мы выедзем з карнавальным грузавіком...

Ота не дасказаў і раптам адскочыў ад Германа.

Прыслухоўваючыся да іх гутаркі, ззаду падыходзіў да іх гер гехаймрат, Людвіг Мэер фон Гогенпіу.

Герман збочыў і прапусціў яго наперад сябе.

---

[1] Да пабачэння.
[2] Сад адпачынку.

Швейцар спрытна падскочыў да дзвярэй і выпусціў Людвіга Мэера фон Гоненпіу.

Ахоплены пакорнаю пашанаю да начальства, швейцар, раздумоўваючы, неахвотна заварушыўся каля вешалкі, але ў яго не хапіла смеласці не падаць Герману паліто.

— Бітэ шэн [1], гер Васэрман! — праказаў ён і зачыніў за Германам дзверы.

* * *

На двары Герман Васэрман пачуў сябе крыху лепей. Вострыя колькі змяніліся глухою боллю.

Гэта заставіла яго перадумаць ісці да трамвая, і ён рашыў прайсціся да спынкі унтэргрундбана [2] на Кэзештрасе.

Звярнуўшы направа, ён выйшаў на гандлёвую Мільхштрасе.

На вуліцах пачынаўся пасляабедзенны рух. Шырокая Мільхштрасе не магла ўмясціць сотняў фраераў, ламавых рамізнікаў, пасыльных на двух- і трохкалёсных веласіпедах, двухпавярховых жоўтых крафтаў, мэрам бы звязаных адзін з другім дзесяткаў трамвайных вагонаў.

Усё гэта ціснулася адно да другога, трубіла і шыпела, званіла і траскацела, шаломячы чалавека.

Наперадзе, дзе крыжаваліся вуліцы, на цёмна-зялёным слупе глядзела зялёнае вока сігнальнага ліхтара. Яно канцэнтравала на сабе сотні людскіх узрокаў, гаворачы пра адчыненую дарогу наперад.

---

[1] Калі ласка.

[2] Падземная чыгунка.

Але цесната паслабляла магчымасці разагнаць рух, і вёрткія веласіпедысты, пралазячы вузкімі шчылінамі між таксі, упіраліся ў сцены крафтаў, вазоў, трамвая.

Людскі натоўп абапал вуліцы, панелямі, несціхана пераліваўся ў абодва бакі.

Кепі, капелюшы, цыліндры мігаліся ў Германавым ваччу, як буйныя каплі дажджу.

Гэта тлумная карціна вялікага горада была яму бесцікаўна і нават надаедліва. Дзень у дзень яна паўтараецца да дробязі, аднака нервуючы чалавека, аднака робячы яго бязвольнай трэскай на хвалях...

Лавіруючы між лавіны людзей, ён раптам заўважыў мэбельны магазін і завярнуў у ператоч людское плыні.

Якісьці велікан, разагнаўшыся ў хадзе, знянацку моцна стукнуў яму цвёрдым пакункам у плячо.

Герман ажно схіліўся і, каб не людзі, кінуўся б на панель.

Утаймаваная боль зноў адгукнулася востраю колькаю. Сціснуўшы зубы, ён падышоў да акна магазіна і хапіўся рукамі за круглую жоўтую парэнчу.

З сігнальнага слупа яму ў вочы глядзела чырвонае вока агню.

Паводка таксі, аўтобусаў, рамізнікаў, трамваяў і два густыя струмені людзей абапал вуліцы замерлі ў чаканні.

Але гэта не сведчыла, што замёр і ўвесь рух.

У момант, калі па Мільхштрасе свяціла чырвоным, ператочная вуліца сігналізавалася зялёным ліхтаром.

І тыя ж аднакава тлумныя, аднакава густыя і віруючыя струмені людзей і машын пераходзілі Мільхштрасе.

Герман раптам успомніў свайго далёкага таварыша і падумаў сабе:

«Змітро любіў гэту бязглуздую нашу таўкатню, гэта шаломнае віраванне тысячнага натоўпу... Бліскучую, коўзкую сцэментаванасць вуліц... Бляск ліхтароў і ігру рэкламных эфектаў...

А ці думаў Змітро, што ўсё гэта знадворнае, бутафорнае, служыць палітурай, пад якой схаваны глыбокія трагедыі галоднай сталіцы. Рабочы Нойкельн, бецыркі [1] Шлезішбангофа, Моабітштрасе, гэты раён беднаты, галечы... Шкада, вельмі шкада, што я не павадзіў яго па аколіцах паўгалоднага нордэна, па вузкіх вуліцах цёмнага і бруднага остэна... Тады б ён вынес зусім іншае ўражанне ад нашае «культурнае» цугенбергаўскае і вестарпаўскае вотчыны... Змітро...»

Яго кранула чыясьці рука.

Герман нервова ўздрыгнуў і паглядзеў направа.

Каля яго стаяла Вераніка Штраль.

— Што з табой, Герман? Ты бледны як смерць і ледзьве стаіш... На тваім твары адбітак нейкае мукі —... з мацярынаю спагадаю ў голасе запытала Вераніка.

— Хварэю, мілая... Напэўна, аперацыя не ўдалася. Унутры мэрам бы нешта разрываецца... Сёння раніцаю не ўтрымаўся і з'еў штуле з маргарынам. Маргарын, напэўна... Ну дзе ж нашаму брату выстарчыш на масла... тры маркі фунт — гэта толькі майму гехаймрату па кішэні.

— Чаго ж ты стаіш пры акне? Можа, цябе адвезці дахаты? — клапацілася Вераніка.

---

[1] Раёны.

Герман выдавіў на твары абыякавую ўхмылку і адказаў:

— Дзякую, мілая... Мне ўжо крыху лепей. Я пайду да V [1] і адтуль паеду.

— Ну, ты ж...

— Пачакай, Вераніка... Глядзі, во,— перабіў Герман, тыкаючы пальцам у акно.

Дзяўчына падалася да шырокага бліскучага палатна шаўфэнстэр [2].

— Вунь там... паглядзі, надзвычай практычная рэч — фотэль... канапа і ложак у адной рэчы. Сапраўды, мудра і эканомна. Набыўшы, можна будзе змяніць мой пакой на меншы і гэтым нагнаць месячную эканомію... І прадаць ложак у дадачу...

Дзяўчына завідліва паглядзела на паказаную ў акне рэч і спагадліва адказала:

— Гэта эканомія не для нас; яна дзеля таго, хто можа купіць масла, а мы...

Гутарачы з Веранікай, Герман не заўважыў таварышку, якая яе чакала. І калі ён намерыўся адказаць на апошні сказ, тая падышла да Веранікі і падагнала яе паспяшаць...

— Будзь знаёма! — парэкамендавала таварышку Вераніка.

Але знаёмства абмежавалася маўклівым поціскам рукі. Герман незаўважліва прапусціў узрокам досыць цікавую стройную чарнавокую баварку.

— Куды вы спяшаецеся?

---

[1] Літарай «V» адзначаюцца станцыі падземкі.
[2] Аконная вітрына.

— На абед, а там на дэманстрацыю... Паспяшай, Герман, на кватэру, ты вельмі страшна выглядзіш...

Дзяўчаты развіталіся з Германам і зніклі ў бурлівай паводцы людзей.

* * *

Герман прайшоў квартал і спыніўся на рагу вядомай Эгерштрасе. Чырвонае вока сігнальнай ліхтарні не дазваляла пераходзіць вуліцу. Ён абярнуўся і паглядзеў у бок замігаўшых разнаколерных агнёў. Уся вуліца трапятала ў іх, як у галёне. Разнастайныя надпісы, светлавыя фігуры і электрычныя паведамленні мітусіліся ў яскравай бліскучасці. Шэры змрок туліўся па кутках і за дубовымі варотамі двароў. На вуліцы зіяла празрыстае святло, манлівае, завабнае, дурманнае... Выразнымі абрысамі тупалі сілуэты жанчын і падазроных мужчын. Яны прагліва ганяліся ўзрокамі і нахабнымі сказамі за кожным прахожым.

Пад яскравым бляскам рэклам хаваліся адкрытыя вертэпы распусты. У сярэдзіне горада, аслаўленага мяшчанскай дабрачыннасцю, яны выяўлялі сабою прыклады буржуазнае заняпаднае культуры... Утомленыя ад перасычэння жыццём гандляры, пралазы-шыберы, мяшчанскае балота, жулікі і сутэнёры — накіроўваліся сюды з усіх канцоў чатырохмільённае сталіцы. На цёмным фоне велічэзнага безрабоцця, на спрутлівых сотках рэпарацыйных планаў, пад воклічы раз'юшанай фашыстаўшчыны Эгерштрасе весялілася п'янымі джазбанднымі і шансанэтнымі прыпеўкамі і разнастайнымі вычварствамі распусты.

«Вось яскравы прыклад росквіту буржуазнае дзяржавы ў руках сацыял-фашыстаўскага ўраду»,— яхідна

праказаў Герман і паплыў у густым натоўпе ў бок зялёнае ліхтарні.

Праз некалькі хвілін ён спускаўся па сходах на станцыю унтэргрундбану. Светлая перакінутая ўгару канцамі дуга літары мігнула ў яго ваччу і асталася на паверхні зямлі.

Герман не паспеў купіць білета, як заспеты на станцыі цягнік рушыў з месца. Ён вылаяўся, што давядзецца прастаяць лішніх пяць хвілін, і падышоў да кіёска. Пярэсты букет часопісных вокладак замігаў у яго ваччу бульварнымі малюнкамі... Але з-пад зялёнага поля «Юнггезэле», «Ды Вохе», «Дагейм» выглядалі роўнымі выразныя літары А. І. Z. Ён прыгледзеўся і накіраваў руку ў кішэню за грашыма.

Загудзеўшы поезд адцягнуў яго ад кіёска. Герман на момант спыніўся на кідкіх у вочы рэкламах, прымацаваных у кафельную сцяну станцыі, пасля людскі натоўп піхнуў яго ў вагон.

* * *

Падымаючыся да сябе, на чацвёрты паверх, Герман на ўсходах напаткаў гаспадыню кватэры. Жанчына спускалася з вялізнай карзінкаю, завучы кудлатага жоўтага мопса.

— А, гер Васэрман! Адну хвіліну, я спушчуся ў краму і хутка дам вам абедаць...

Герман моцна соп, і па яго твары бегала балючая ўтома. Ён паўшэптам адказаў гаспадыні:

— Данке [1], фраў [2] Гэпнер!

---

[1] Дзякуй.

[2] Пані.

— Што з вамі, Герман?

— Хварэю, фрау.

— Бедны, вы бы...

На вуліцы пачулася рэвалюцыйнае піянне і моцныя гукі:

«Нідэр!.. Нідэр!» — «Гох! Гох!»

Герман паглядзеў у акно на сходах.

Два поўныя людзьмі грузавікі прамчаліся ў бок Бель-Аліянцштрасе. Мільганула да дзесяці чырвоных сцягоў.

«Ах, гэта ж у нядзелю выбары ў муніцыпалітэт...»

Калі ён ачуўся пры дзвярах у кватэру, паштовая скрынка паглядзела на яго шмакам друкаваных адозваў.

Герман апаражніў скрынку і разабраў надрукаваныя лісты...

Добры дзесятак розных партыяў не кідалі надзеі атрымаць для сябе Германаў голас. Але ўсе яны, за выключэннем КПН [1], абмыляліся.

Герман з агідай скамячыў пак адозваў і кінуў іх у прыдзверны кашэль. Ненавісныя яму, фальшывыя лемантацыі СПН [2], ДПН [3], ННП [4] і ПЦ [5] абуралі яго злосці. У Германавых руках засталіся толькі дзве пракламацыі КПН.

Вайшоўшы ў пакой, Герман засвяціў электрыку, не распранаючыся прысеў на крэсле і прагледзеў адозвы.

«Так, я пераканаы ў тое, што толькі адна камуні-

---

[1] Камуністычная партыя Нямеччыны.
[2] Сацыял-дэмакратычная партыя Нямеччыны.
[3] Дэмакратычная партыя Нямеччыны.
[4] Нямецкая нацыянальная партыя.
[5] Партыя цэнтра.

стычная партыя выведзе рабочых з іх цяперашняга стану. Усе іншыя партыі, незалежна ад іх адценняў, роўна буржуазна-прадажніцкага... характару...»

І перад ім зноў паўстаў вобраз сябра:

«Праўду ты казаў, Змітро... Мне і дагэтуль чуюцца твае завяральныя словы ў перамогу камунізма. Нямеччыне адзінае выйсце — гэта ў сацыяльнай рэвалюцыі, ў дыктатуры пралетарыяту. Іначай яна будзе булдыхацца прадзіраўленым вядром у бруднай лужы нацыянал-фашыстаўскага рэжыму... Я зайздрошчу табе, калі ўспамінаю, як ты разрываешся на часткі ў разгойданай чыннасці сацыялістычнага будаўніцтва свае краіны. А я тут?.. Я тут мушу сядзець і пакорліва выпрошваць у надменных фонаў нячэмных падачак у выглядзе справядлівае аплаты працы. І калі чалавек...»

Герман раптам успомніў пра недапісаны сябру ліст і падняўся з месца. Яго скаланула не то ўкора, не то сполах. Ён схапіўся за галаў.

«Гэта ж я забыў ліст у абтайлюнгу!.. Так... Забыў... Гэта сабака няйначай яго прачытае... Ах, што я зрабіў!.. Як я мог забыць яго на стале?..»

Ён нервова абмацваў кішэні, паціскаў плячыма і спраўляўся ў партфелі. Пасля пачаў раздзявацца.

Думкі лыгаліся ў несастойныя планы і намеры наконт забытага ліста і магчымае быць непрыемнасці...

Але безнадзейнасць паправіць справу крыху ўтаймоўвала яго неспакой...

Стук гаспадыні на нейкі час зусім адцягнуў Германаву ўвагу ад выпадку з лістом.

— Выбачайце, што я запазнілася з абедам.

— Нічога, нічога. Што вы, фраў Гэпнер. Я зусім не хачу есці.

— Сёння вельмі ўдачлівы абед, папрабуйце. Такі моцны булён... Цёплы і тлусты... Вам карысна на балючы жывот. Выпіце кубак, гер Васэрман.

Фрау Гэпнер з гэтым пакінула Германа.

Ён падышоў да маленькага круглага століка, паглядзеў на падproperanую яду і зноў задумаўся пра ліст. Есці не хацелася. Герман баяўся, каб, паеўшы, не раскапрызіць балючага нутра. Аднак праз некалькі хвілін яму здалося, што пад ложачкаю пачынае казытаць.

Тады Герман узяў кубак з булёнам, пасмакаваў губою і, патрошку сёрбаючы, апаражніў увесь...

Другое ўжо не спакушала, і ён адышоў да канапкі.

Прылёгшы, ён на момант уздрамнуў, утомлены боллю і думкамі пра забыты ў абтайлюнгу ліст.

Але ўзмоцненая боль хутка разагнала Германаў сон. Яна заглушыла сабою і прыкрасць з лістом. Ён не мог знайсці сабе месца, варочаючыся і зацяжна войкаючы.

У яго нутры мэрам бы нешта адрывалася і падала ў ніжнюю частку жывата, ціснучы на ныркі. Вострыя рэзі кроілі на часткі сэрца і адбіваліся калючымі стрэламі ў правай палове галавы.

Герману прыстаўлялася шырокая белая камора аперацыйнага пакоя ў бальніцы Шарытэ. Мігаў вобраз барадатага бясчуйнага хірурга Тыфлянда і спачувальных пары сясцёр...

Увесь жах перадаперацыйнага чакання...

Гэта было ў другі раз, спусціўшы тры гады пасля страшнае аперацыі ў правым вуху.

Няўжо перанесеныя ім мукі не аплацяць яго надзей?

Жахлівая думка пра няўдачу аперацыі ў кішках адгукнулася востраю боллю ў левым паху.

Ён губляў апошнюю спадзяванку на поўнае выздараўленне і дапушчаў розныя нядобрыя думкі...

Раптам выразны, адзначаны план замаху на жыццё ўсміхнуўся Герману салодкасцю выбаўлення ад пякельнай болі і нейкім цудоўным чынам перадаў яго суцесе і ўздрому.

* * *

— Герман, а Герман, ты спіш?.. Можа, табе доктара выклікаць?

То казала Ізольда, Германава сястра, затрывожана гледзячы брату ў падзёрганы мукамі твар.

Яна ўвайшла ў пакой незамечанай Германам, несучы яму весткі пра арышт Мікалая Альтмана і жадаючы пачуць яго думкі пра сваё рашэнне выйсці замуж за доктара Мічэка.

Угледзеўшы Германа ляжачым на канапе, Ізольда скмеціла, у чым справа, і кінулася будзіць брата.

Яна будзіла з крохкай асцярожлівасцю, шкадуючы яго трывожыць, і ажно ўзнялася на крэсле, калі Герман адплюшчыў вочы ды заўважыў яе прысутнасць.

— Ізольда, гэта ты? Маеш навіны?

— Так, маю... але, вось ты, браце, не можаш нічым добрым пахваліцца.

Чуць прыкметная ўхмылка каўзанула па сухіх Германавых губах.

— Думаў... што-а... кане-эц... прыйшоў, а... як узяло,— дык і жывот, і галава — выказаць цяжка...

— Ну, а цяпер?

— Крыху лягчэй... Але я ўпэўнены, што аперацыя не ўдалася... Болей...

— Што?!

— Чарговае аперацыі я не перажыву, ды не пайду на яе...

— Кінь, Герман. Можа, сённяшні прыступ выпадковы... А можа, табе доктара пазваць?..

— Будзе, Ізольда, клапаціцца пра мяне... Я адчуваю сябе лепш. Кажы, што ў цябе новага... Як твае справы з гэтым Мічэкам?

Ізольда памаўчала.

— Кажы...

— Запіс мы адлажылі яшчэ на два тыдні... Ну, вось, арыштавалі Мікалая Альтмана...

— Калі? — нервова павярнуўся на канапе Герман.— І завошта?

— Мікалай кінуў каменем у паліцэйскіх... На маім ваччу яго схапілі... Толькі што...

— Была сутычка?

— Груны стралялі ў камуністычную маніфестацыю.

— Сабакі!.. Крывавыя сабакі!.. Няўжо буржуазія спадзяецца гэтым спыніць надыход сацыяльнае рэвалюцыі?

Бачачы павышаную раздражняльнасць Германа, Ізольда перарвала гутарку і ўзялася праглядаць перадвыбарныя адозвы камуністычнай партыі.

Прачакаўшы хвілін пяць, Герман аднавіў размову:

— Ведаеш, Ізольда... у мяне трапіўся прыкры выпадак...

— Які?

Ізольда спалохана павярнулася да брата.

— Пісаў свайму сябру ў СССР ліст... І калі хапіў

боль — я забыў яго прыняць са стала... Шэф, напэўна, прачытае, і тады...

— Што ж ты пісаў у лісце? — захвалявалася Ізольда...

— Пісаў... Гэты фашыст да ўсяго прыдзярэцца... Тым болей, што ён на мяне даўно мае вока...

— Ах, Герман, які ты нядбайны...

— Папрашу цябе, Ізольда, ці не наведала б ты заўтра фінансамт і не апытала б... машыністку ці Ота, пасыльнага.

— Ты думаеш, трэба гэта?

— На кожны выпадак...

— Ах, ах... няхай бы ты...

— А якраз сёння гехаймрат фон Гогенпіу мне паведаміў пра надбаўку дваццаці марак у месяц...

— Вось бачыш... Герман... які ты неасцярожлівы.

Пакідаючы Германа, Ізольда папрасіла фрау Гэпнер сачыць за хворым. Дабрадушная і спагадлівая гаспадыня з ахвотай узяла на сябе гэты абавязак.

І на працягу ночы яна некалькі разоў прачыньвала дзверы ў Германаў пакой, услухоўваючыся... Але Герман, скора пакінула яго сястра, суцішыўся і амаль не праз усю ноч спакойліва спаў. Новы прыступ хапіў яго ўжо а восьмай гадзіне раніцы, калі гаспадыня пастукала з кавай.

— Можа ў вас, гнедыге[1] фрау, знойдзецца каліва морфію?

— Вам зноў нядобра, гер Васэрман?.. Што за прымха... А ноч вы так добра спалі... Я даглядала і думала...

---

[1] Міласцівая.

— Дзякую вельмі!.. Зараз боль цішэй учарайшага, але ўсё ж яшчэ моцная...

Фраў Гэпнер збегала да сябе і прынесла Герману морфій. Ён прыняў яго і скора супакоіўся...

Гадзін праз дзве, калі сонца падарыла яго пакой вузкім каснічком праменю, лёгшага на круглы столік, Герман прыўстаў і са смакам выпіў халодную гаркаватую каву...

Яму хацелася яшчэ чаго выпіць, але клікаць гаспадыню з-за гэтага ён палічыў залішнім...

Не пакідаўшая рупясць пра ліст заставіла яго перанесціся думкамі на месца службы, наведаць Ізольду і выявіць перад сабой агіднае аблічча шэфабтайлюнга Эске.

«Сапраўды, і трэба ж было здарыцца так...»

Гэты свой сказ Герман правёў упічлівым кіўком галавы, але адчуў, што зараз ужо выпадак з лістом яго меней непакоіць...

«Ну, а калі ды гэтая зараза прачытае... Калі нават ён давядзе да ведама гехаймрата, а той захоча... пляваць на ўсё...»

Да яго пастукалі. Стук быў раптоўны, як з зямлі, бо папярэдняй яму размовы Герман не дачуў.

— Вайдзеце, прашу вас!

Яшчэ з-за парога Ота пачаў цішком казаць:

— Моен, гер Васэрман... Геносэ [1], вы ўчора забыліся на сваім бюро недапісаны ліст...

Герман прыўзняўся і зарадавана паглядзеў на Ота.

— Моен, геносэ!.. Многа дзякую... І вы яго знайшлі на маім бюро, кажаце?.. Вельмі ўдзячан вам...

---

[1] Таварыш.

Ота падаў Герману заклеены канверцік і павярнуўся да выхаду. Але, адступіўшы пару крокаў, хлопец хапіўся рукою за лоб і стаў... Пасля павярнуў голаў да Германа, які адпячатваў канверт, і, не гледзячы на яго, сказаў:

— Геносэ Васэрман... Ну, гэты ліст, мне думаецца, гер Эске прагледзеў...

— Што вы? Чаму так думаеце? — менш з неспакоем, а больш з цікавасцю запытаў Герман...

— Я падслухаў, як ён нешта пераказваў Генрыху... Некалькі разоў успамінаў Саветуніён... [1]

— Вы найшлі яго зразу пасля майго ўходу? — паінфармаваўся Герман...

— Я падглядзеў яго пры ўборцы, гер Васэрман... У абтайлюнгу аставалася адна фройлейн [2] Эрыка... І я перш хацеў яе спытаць, а пасля думаю... ці варта...

— А было б добра, геносэ Ота... Мажа б вы зрабілі гэта, калі ласка, сёння... І калі туды зайдзе мая сястра...

— Добра, я запытаю фройлейн Эрыку... Аўфвідэрзейн, геносэ Васэрман!.. Папраўляйцеся хутчэй!..

Ота матнуў бялявую галавою і цішком выйшаў з Германавага пакоя...

Герман не чуў ні стуку дзвярэй, ні справоднае Ота гутаркі гаспадыні. Ён, зацяжна ўпершыся вачыма ў вяржовы лісток паперы, перачытваў накіданыя на яго думкі ў выглядзе пісьма да свайго таварыша ў далёкай UdSSR.

---

[1] Савецкі Саюз.
[2] Паненка.

* * *

Адвячоркам, крыху раней учарашняй пары, да Германа прыйшла Ізольда.

— Не папраўляешся?

— Абедаў сёння са смакам... Хоць раніцаю збаўляўся морфіем... Дзякуй ёй, фраў Гэпнер...

— Я прасіла яе паглядзець за табою...

— Дзякуй, Ізольда... Я столькі табе, сястра, раблю клопату сваім існаваннем, замест таго, каб...

— Герман, ты мяне крыўдзіш... Што табе прыйшло ў голаў?

Сястрын тон пацягнуў за сабою дзесяціхвілінную маўчанку...

Яе знарушыў Герман.

— Мой ліст апынуўся ў мяне...

— Што ты кажаш?

— Пасыльны Ота прынёс...

— А я заходзіла, пытала якогасьці мужчыну, але той толькі яхідна ўсміхнуўся і адмахаўся рукамі... Для далікатнасці апытаў машыністку і выбег за дзверы, каб пазваць пасыльнага... Ды таго не знайшоў... Я баюся, Герман, каб яны толькі не чыталі...

— Гэта безумоўна... Прачыталі і скапіявалі.

— Няўжо можа тое быць?

— Якая ты, Ізольда, наіўная...

— Тады будзе дрэнна, братка...

— Усё ж, на вось гэты ліст і вышлі яго, прашу цябе.

Ізольда, мэрам бы баючыся, узяла з Германавых рук пісьмо, тут жа запакавала яго ў канверт і апусціла ў рыдыкюль...

— Ці варта пасылаць, калі ты ў ім кратаеш каразлівых пытанняў?

— Пляваць на ўсё: і на шэфабтайлюнг, і на гехаймрата, і на ўсіх, хто зараз плодзіць гэту каросту на целе змучанае краіны...

Ізольда здзіўленымі ўзрокамі глядзела на заліты абурэннем твар Германа і толькі магла яму адказаць:

— Супакойся, братка, табе шкодна хвалявацца... Супакойся, Герман, прашу цябе...

* * *

Герман Васэрман, бухгалтар штоерабтайлюнга бэцыркавага фінансамта, праляжаў хворым яшчэ некалькі дзён. Яго сястра Ізольда наведвала брата штодня... І кожны дзень, выходзячы ад Германа, яна прасіла гаспадыню паглядзець хворага.

Паправа, на якую ішоў Герман, супакойвала Ізольду, але не давала ўпэўненасці на поўнае выздараўленне брата.

У апошнія два месяцы Герман раставаў на яе ваччу як свечка. Складаная аперацыя ў кішках канчаткова падарвала слабы, ужо перажыўшы трэпанацыю чэрапа, арганізм Германа. Яго трэба было наглядаць, як малое дзіцё.

Ізольда старалася бываць у брата і, бываючы, кожны раз прасіла чулую і добрую гаспадыню, фраў Гэпнер, дагаджаць яму ядою. Але гэта не было надзейным сродкам сталага падтрымання Германавага здароўя.

Яно далёка не адпавядала яго паказлівай стараннай службовасці і падавалася пад націскам нагрузнае працы ў фінансамце.

Траплены прыпадак сеяў вострую трывогу ў Ізольдзіным нутры за наступнае Германа. Яна, як і ў часе аперацыі, была не чужа дапускаць усялякія нечаканасці. Балючая нервовасць Германа наводзіла яе на чорныя думкі.

Герман часта загарваўся рызыкоўнымі планамі... Яго надарванае да рэшты здароўе атуманьвала густым смуткам прагляды ў наступнае. І толькі трывожлівая сучаснасць, нарастанне вялікіх падзей у краіне сеялі лёгкія праблескі трапяткіх чаканняў... Бліжэйшыя муніцыпальныя выбары абяцалі шмат цікавых нечаканасцей. Абвостраная класавая барацьба несла багата жданых здарэнняў. Камуністычная партыя ўзмоцнена гатовілася даць бой бюргерскім і сацыял-фашыстаўскім партыям.

Растуць сімпатыі да камуністычнай партыі. Гэта відаць з таго спачування, якое пасылаецца з боку насельніцтва камуністычным маніфестацыям, з перапоўненых камуністычных мітынгаў...

Нягледзячы на болі і ўтому, Герман з захапленнем перачытваў багатую перадвыбарную літаратуру КПН. Ён цешыўся з вострае, руйнуючае крытыкі буржуазна-фашыстаўскага ладу і горача жадаў яго разбурэння...

— Галасуй, Ізольда, за спісак КПН...— угаварваў ён сястру, калі яна пакідала яго пакой перад днём выбараў.

— Ці ж табе невядома, што я ўжо двое выбараў аддаю свой голас камуністам?

— А гер Мічэк?.. Арнольд, ты скажы яму, Ізольда, няхай ён таксама...

— Мы сёння выязджаем з ім у Фюрстэнвальд...

І гэта папярэшкодзіць нам выкарыстаць свае выбарчыя правы...

— Чаму ж якраз сёння наспела вам ехаць? — занедаволена праказаў Герман і ўпічліва махнуў рукой.

— Арнольда запрашваюць па экстраных справах... Ну, а ён бярэ і мяне... Ну, як бы... ауф люфт [1]...

— Не разумею гэтага, Ізольда... За пусцяковы гешэфт нядбаць правам голасу... якое дробнае гешэфтмахерства!

Па Германавым твары прабягалі канвульсіі неўрастэніі, ён пабялеў як мел, толькі распаленыя злосцю вочы разгойдана забегалі ў глыбокіх западзінах.

— Супакойся, Герман... Табе зноў нядобра? Братка мой!.. Ты ўсё так блізка прымаеш да сэрца.

Герман маўчаў, адале дэманстратыўна адвярнуўся да сцяны.

Ізольда прытоенымі крокамі выйшла з братавага пакоя, не забыўшы зазірнуць з просьбаю да гнедыге фрау Гэпнер.

* * *

На шосты дзень, у нядзелю, Герман падняўся з пасцелі і прайшоў па пакоі. Ён чуў сябе дужа слаба, але не дазваляў і думаць, каб не пайсці на выбары. На вуліцы гудзела жыццё, і ў пяць хвілін, якія ён прастаяў каля акна, праімчалася некалькі агітацыйных грузавікоў, бітком напоўненых людзьмі... У дзвярах, куды ён абярнуўся, тырчэў шмат прасунутых гаспадыняй свежых адозваў. Герман дастаў іх, паразгортаў на століку і прачытаў угаворныя зазывы да выбараў... Наяў-

---

[1] На свежае паветра.

ныя кламнікі з буржуазных і сацыял-фашыстаўскай партый абяцалі горы дабра за галасаванне за іх спіскі... Крывадушна і бессаромна яны затойвалі балючыя прыгожасці свайго гаспадарання і ўпарта не хацелі з ім расставацца на будучае.

Герман востра вылаяў буржуазных баламутаў і з агідлівасцю парваў да дзесятка разнамерных адозваў.

Сваю ўвагу ён цалкам аддаў пракламацыям камуністычнай партыі Нямеччыны, старанна праглядзеўшы іх ад загалоўкаў да рэдакцыйных подпісаў.

У яго было акрэсленае рашэнне, катораму не патрабавалася падмацунку, галасаваць за спісак КПН.

Герман завінуўся каля туалета. Ныццё ў баку і агульная слабасць не перашкодзіла яму рупліва спраўляцца з уборамі, адсутнасць апетыту не клапаціла пра каву.

Але ён не паспеў зашпіліць камізэлькі, як да яго пастукала гаспадыня. Яна несла яму фрыштык і здзіўлена спынілася на парозе, угледзеўшы Германа на пакоі.

— Гер Васэрман, што вы задумалі сабе? Вы ледзьве стаіце на нагах і ў вашым ваччу ходзяць балючыя вогнікі... Няхай бы вы ляжалі, пакуль...

Герман не даўся на ўгаворы. Ён холадна паглядзеў на ўдзячлівую гаспадыню і нават не падумаў змяніць свайго намеру.

Надпіўшы з кубка кавы і паспрабаваўшы румянае, хрусткае зэмэле[1], ён ужо знімаў з вешалкі паліто, калі за дзвярыма яго пакоя раздаўся голас Міколы Альтмана.

Герман прачыніў дзверы і зазваў да сябе таварыша.

---

[1] Булачкі.

— Ты, я бачу, ні ў агні не гарыш, ні ў вадзе не тонеш...— з натужанаю жартлівасцю праказаў ён.

— Чаму так?

— Мне сястра казала...

— Пра арышт?

— Ізольда прыбегла надовечы ўся збялеўшы і паведамляе мне... А я, ведаеш, не магу сабрацца з думкамі...

Мікола Альтман паглядзеў на непрыбраную пасцель, на ашматкі расцярушанай паперы і адвярнуўся да Германа.

— Так, ты выглядаеш, Герман, нецікава! Нездаровіцца? Зноў з кішкамі?

— Сёння ўжо — свяціся... Вось надовечы не думаў, ці перажыву... Рука, каб хапіла сілы, зграбяшчыла б браўнінг і... Цяжка, браце Мікола...

— Кінь, Герман... Шануйся, і ўсё пройдзе. Што ж доктар кажа? Наведваў мо'? Ці табе пазваць прафесара?..

— Ачамярэла... Ды што яны добрае скажуць? Суцяшаць — іх абавязак. А які з таго толк?.. Можа б, каб супакоіўся на які час... дык не магу... Стаў гэткім нервовым, што муха-заваруха, як увесь калачуся... Прачытаю газету, сустрэнуся з гэтымі паганымі сабакамі гакенкрэйцарамі, зайду ў фінансамт на службу — роўна бярэ злосць і абурэнне...

— Праклён!..

— Так, Мікола, наша надзея толькі на КПН... Адна гэта партыя нясе Нямеччыне збаўленне ад загубы... І я, Мікола, дзень ата дня набліжаюся да яе шчыльней... Зараз, во, падняўся з пасцелі зусім хворым,

але панясу за яе свой голас. Даруй мне, браце, я ўсё пра сябе... Скажы ж хаця, як і за што цябе былі арыштавалі?

Мікола Альтман перагарнуў стосік камуністычных адозваў, прачытаў назву аднае з іх і паведаміў:

— Тая ж усё гакенкрэйцараўская хэўра... Перад гэтым у друкарні выразаў гузікі з арламі ў жакетцы аднаго дойчнацыянала, а к вечару якраз вазьмі і стрэнь яго ў гуртку маніфестуючых фашыстаў... Я асвістаў маніфестацыю і за гэта атрымаў рызінавае палкі ад свайго знаёмага друкара нацыянала... Ну, зразумела, яму гэта задарма не абышлося, мая трысцінка правяла па яго мазгаўні ёмкую палоску... Ажно бедны ваяка пластам лёг на брук... І жаласць да яго з боку зялёнага, у якога я кінуў камень, кончылася маім арыштам... Суткі адседзеў у паліцайабтайлюнгу ў Нойкельне... А сёння, во, зноў чуць не папаў...

— Як гэта? — пацікавіўся Герман, увесь запаліўшыся злосцю...

— Напаў на сутычку паміж камсамольцамі і гакенкрэйцарамі... Не сцярпеў і кінуўся ў тузаніну... У адзін момант гакенкрэйцараўскі сцяг ачуўся ў маіх руках, і яго дзяржанне адбіла не адну свастыку на плячах гэтых фашыстаўскіх сабак... Ну, зялёныя аднае пароды з гакенкрэйцарамі — заўсёды гатовы на падмогу сваім сябрам... Я ўцёк, а чалавек дзесяць камсамольцаў апынуліся ў аўтамабілі.

Герман уголас разрагатаўся... Але яго смех раптам абарваўся зацяжным, хрыплівым кашлем. Ён апранаў жакетку і хвілін праз дзесяць аставаўся з усунутым адным рукавом, трымаючыся за бок неадзетаю ў жакетку рукою.

— Добра, паганцам... Хадзем, і я хоць чым спаганю злосць...

— Чакай, Герман,— пераняў яго Мікола Альтман,— можа, сапраўды табе няварта ісці. Ты зусім хістаешся на нагах...

— Ні за што не змарную свайго голасу. Камуністычная партыя...

Ён не дасказаў і балюча вагнуў левы бок, скрывіўшы плакучую міну на твары.

— Ідзеш?

Калі яны спускаліся па сходах, фрау Гэпнер моўчкі правяла іх узрокамі скрозь прачынятыя дзверы свайго пакоя.

Пакуль яны апынуліся на бліжэйшым пляцы, Герман паспеў расказаць Міколу Альтману пра выпадак [illegible] яго лістом у фінансамце. Мікола Альтман зацікавіўся гэтым, але разуважыў таварыша.

— Плюй... Ты думаеш, завядуць справу?.. Мо'... Наконт службы, хіба...

— Ды я махнуў рукою... А калі і завядуць... А калі і зволяць...

— Не пасмеюць...

— Чаму ты думаеш?

— Па-мойму, так...

— Мыляешся... Толькі я парашыў...

Іх гутарка абарвалася ў той момант, калі яны пераходзілі ператочную вуліцу. З яе накіроўваліся некалькі грузавікоў з маніфестантамі прасцяком на шырокую Газэнхайдэ. Гучныя выгукі «нідрыг» [1] і «гох» [2] аглашалі

---

[1] Далоў!
[2] Ура.

надворак. Хмара адозваў белымі пташкамі насілася над мнагалікім натоўпам, над якім крыху ніжэй рэелі і чырвоныя палотнішчы сцягоў.

То была перадвыбарчая маніфестацыя камуністычнай моладзі.

Герман першы зняў з галавы капялюш і заматаў прывітанне маніфестантам. За ім гэта зрабілі некалькі дзесяткаў чалавек, зліўшы прывітальныя выгукі ў адзін суцэльны зычны гук...

— Гох! Рот фронт!

Адзін з грузавікоў раптам спыніўся і ў момант стаў трыбунай для аратара.

Насустрач прагным узрокам усё ўзрастаючай грамады несліся баявыя прызыўныя словы маладога прамоўцы...

— Геносэ унд геносін! Панаванне буржуазіі ў саюзе з сацыялфашыстамі прывяло краіну на край разору... Яна пакорліва сагнула шыю перад версальскімі разбойнікамі, надзяваючы цяжкае ярмо на нямецкіх рабочых. План Даўэса запрыгоніў мільёны нямецкіх працаўнікоў... Але ён не абыходзіць прадпрыемцаў і абшарнікаў. Наадварот. Побач з бядотаю мільёнаў яны спраўляюць вяселле нечуванай нажывы на нечуванай эксплуатацыі пралетарскіх гушчаў...

Авантурная хэўра склярэкаў не адстае ад сваіх таварышаў. Панама з дастаўкамі абутку яскрава характарызуе гаспадаранне буржуазна-фашыстаўскага самаўрада. Мы не павінны дапусціць гэтага надалей... Гаспадарка чырвонае сталіцы павінна застацца ў руках рабочага класа — сапраўднага гаспадара...

Гучлівае «гох» пранеслася далёка ўсцяж запоўненай

публікай незмярымае Газэнхайдэ. І цёмнай кучай галак занасіліся ў паветры капелюшы...

Ахопленыя баявым настроем, Герман з Міколам і не заўважылі, як з працілежнага канца launched пяраточнай вуліцы выбегла густая калона дойчнацыяналаў [1] з песняй «Вахт ам Рэйн» [2]. Яны спынілі адзін з камсамольскіх грузавікоў і кінуліся ў напад на маніфестантаў. Пачуліся частыя стрэлы. Частка публікі пачала рассявацца па дварах...

Мігам Герман быў адціснуты ад Міколы Альтмана і застаўся адзін стаяць на аголеным скрыжаванні вуліц. Але адзіноцтва яго не спалохала: ён хутка сарваўся з месца і праз некалькі хвілін апынуўся ў асяродку раз'юшанай мятусіны камсамольцаў з гакенкрэйцарамі.

Пры першай сустрэчы некалькі важкіх удараў упалі на яго плечы, але ён не патураў на гэта, пралазячы да варожага сцяга гакенкрэйцараў.

Ён ужо ачуўся пад яго разгорнутым палатном, працягаючы руку да агіднага белага круга з чорным адсечаным крыжам, калі моцны ўдар у бок зваліў яго на слізкі асфальт. Амаль не ў тую ж хвіліну па ім прайшлося некалькі фашыстаўскіх ног, узмацняючы аднаўленую ва ўсім целе колкую боль...

* * *

Герман апамятаваўся ў белым светлым пакоі бальніцы Марылі Магдалены. Ён быў апрануты ў бальнічны халат, а на балючым баку ціснула тугая кампрэсавая павязка. Ён адчуваў сябе разбітым да звання. Мэрам бы

---

[1] Нямецкія нацыяналісты.
[2] «Стража на Рэйне».

на ём ляжаў дзесяцігадовы цяжар, давячы яго к мулкім спружынам ложка. Прагло піць, але не знаходзілася сілы павярнуць язык, каб пазваць сястру...

А тая, маладая і вёрткая, але бесклапотная, абыякавая да мук дзесяткаў хворых, стаяла пры акне і глядзела ў сад. У яе руках тырчэлі нязгорнутая кніжка і свежая белая ружа.

Па баках, на суседніх ложках, ляжалі невядомыя Герману хворыя.

Правы несціхана ойкаў, левы спакойліва драмаў...

— Сястра-а! — натужыўся і ледзьве чутна праказаў Герман і безнадзейна адвярнуў галаву тварам у падушку.

Але сястра пачула яго зоў і хутка апынулася пры ложку.

— Чым услужыць вам, гер Васэрман?

— Піць, сястра... піць, гнедыге швэстэр...

Праз хвіліну Герман адчуў, як халодная ласкальная і асвяжальная вільгаць прабегла па яго істоце...

Яна ўліла яму з сабою салодкую здрому.

Герман Васэрман думаў пра ўчарайшае, стараючыся занядбаць крыху прыўціхшыя, але ўсё яшчэ вострыя колькі ў баку.

На яго змучаным твары і ў глыбока заўпалых вачах глядзеўся адбітак перажытых мук. Шкляны ўзрок упіраўся ў матавую лямпу на чыстай белай столі бальнічнае палаты. Прыцішаныя стогны хворых дазвалялі яму вольна сачыць за адрыўнымі эпізодамі перажытых здарэнняў. Германа моцна раздражнялі іх вынікі, ён застаўся ўцалку пераможаным,— нават не адамсціў паданнем голасу за камуністычную партыю. Апошняя акалічнасць затуляла сабой усе варыяцыі ўчарайшага выпадку. Не

разбіраючыся ў незалежным ад яго павароце падзей, Герман упікаў сябе за нечаканае змарнаванне сваіх выбарчых праў...

«Няхай бы я... пасля галасавання ўвязаўся ў сутычку...»

Але бязвольнасць адшукаць іншае выйсце з учарайшых здарэнняў зводзілася да фатальнай немінучасці трапленага. Гэта злавала Германа і міжвольна зацягала яго ў гушчу разгойданых думак...

* * *

Прыход Ізольды адцягнуў Германаву ўвагу да сястры. Але яе жахлівасць і спачуванне не далі яму супакою.

— Іншага, сястра, нельга было чакаць... Астаючыся ворагам сучаснага ладу, я не мінуў стаць яго ахвяраю, як і другія... Класавае змаганне не абмінае менш дзейных. Вось толькі аднаго шкада мне — гэта страты выбарчага голасу... Паганыя заправілы...

Ізольда растапырыла над яго вачмі абедзве далоні рук і ціха прасыкала... Правабокі хворы пільна прыслухоўваўся да Германавае гутаркі...

— Кінь, сястра... я нідзе і ні перад кім не ўтаю сваіх думак...

— Але ж, братка мой, як жа ты не абмінуў-такі ўчарайшай сутычкі... Табе ж за яе так дарага даводзіцца адплачвацца! Каб ты паглядзеў на сябе!..

— Я адчуваю, Ізольда...

— Табе вельмі дрэнна, Герман?

— Цяжка, сястра, але... скажы мне, ты калі вярнулася з Фюрстэнвальда?

— Учора а дзесятай гадзіне ўвечары...

— Чытала бюлетэнь аб скутках выбараў?

— Арнольд чытаў у кіёску на Унтэр-дэн-Ліндэн... Камуністы выйгралі вялікую колькасць галасоў.

— Ты не прынесла мне «Вельт ам Мантаг»?

— Забыла... Ды табе шкодна чытаць, Герман... Супакойся... Ты еў што?

— Жаднага апетыту, Ізольда... Але скажы мне, і твой з Арнольдавым галасы прапалі дарэмна?.. Падумай, Ізольда, тры галасы. Ай-яй-яй! Ну, то ж са мною, але чаму вы... з-за нейкіх дробных гешэфтаў...

Па Германавым твары прайшла балючая сударга; ён зацяжна ўздыхнуў і аблізаў абсохшыя губы...

— Ты піць хочаш?

— Не... Чуеш, Ізольда... Ты не думаеш, што камуністы выйгралі большасць галасоў?..

— Арнольд казаў...

Да іх падышоў ардынатар у справоджанні сястры.

— Як адчуваеце сябе, гер Васэрман?

— Дрэнна.

— Пакажэце язык... Болей... яшчэ... Папраўляйцеся...

Ён прытуліў руку да Германавага лба, адкрыў коўдру і, паглядзеўшы на кампрэс, абярнуўся да сястры і, крыху падумаўшы, казаў:

— Вы паўтарэце яму ўчарайшую мікстуру і перавяжэце кампрэс... Папраўляйцеся, гер Васэрман... Выбары ўжо скончыліся...— дадаў ардынатар і пайшоў да суседняга хворага.

Афіцыяльна-казённая гутарка ардынатара павеяла на Германа агідным крывадушшам. У ёй не знаходзілася ні каліва спагады да хворага, ніякага хацення выка-

зацьяму дапамогу. Ці мо' ардынатар быў бязмоцны што-кольвечы пасабіць...

— Эх, гэта казённая педантычнасць...

Ізольда зноў перасцерагла Германа кіўком рукі...

Але ён не сцішаўся і з яшчэ большым абурэннем выказаў:

— Тут усё прасяклася бюргерскаю фальшай...

— Табе шкодна хвалявацца, Герман...

Ён нічога не адказаў на гэта і прыплюшчыў вочы...

Ізольда пакінула брата і падышла да ардынатара.

— Гер доктар, скажэце мне, калі ласка, яго стан вельмі сур'ёзны?

Халодная ўхмылка выблíснула ў шэрых доктарскіх вачах і мігам растала, мэрам бы збегла ў густыя валасы рыжае барады.

— З ім не безнадзейна, гнедыге фройлейн... Сёння ён сябе лепей чуе... Але...

— Можна ўзяць яго на кватэру?..

— Пачакайце дзень-другі... Можа, часамі...

Мах доктарскае рукі адсек у Ізольдзіным адзнанні цвёрдасць надзеі на ўпэўнае выздараўленне яе брата.

Сціснутая колкаю роспаччу як абцугамі, яна вярнулася да Германа. Ён ляжаў безварухна, з заплюшчанымі вачмі, як паказалася Ізольдзе, зусім без дыху... На пазелянелым, падобным да муміі, твары бегалі чуць прыкметныя ўздрыгі...

— Збегай, сястра, да мяне на кватэру і прынясі пару чыстае бялізны, яна ляжыць у камодзе,— папрасіў Герман Ізольду.

— Дарагі мой братка... як табе не шанцуе. І хто надумаў, каб ты... Гэтыя выбары... Ах...

* * *

Са змяшаным пачуццём крохкае надзеі і глухое няверы Ізольда з бальніцы накіравалася на кватэру Германа. Разгубленая ад нахлынуўшых трывожных думак, яна перш спынілася на трамвайнай астаноўцы, пасля пабегла да унтэргрундбану. Але пяціхвілінная чаканне падземкі паказалася Ізольдзе занадта доўгім, і яна пехам пайшла ўсцяж вуліцы... Густы натоўп перапінаў ёй дарогу, збочваў яе, на кожным кроку застаўляў рабіць разнастайныя загібы і яшчэ больш нерваваў дзяўчыну.

Вуліцы не было канца. А яшчэ наперадзе ляжаў перавулак і шырокі тлумны пляц...

Ізольда яшчэ болей паскорыла хаду.

Яна заварочвала ў двор высокага шэрага будынка з палісаднікамі ад шырокае вуліцы, калі яе перапыніў якісьці хлопец.

— Выбачайце, фройлейн Васэрман?

Ізольда спынілася.

— Я самая... А вам што?

— Я пасыльны з фінансамта... Ота Шнэлер. Ваш брат, гер Васэрман... у бальніцы Марылі Магдалены?.. Ах, якое няшчасце... Як я шкадую геносэ Германа!.. Перадайце яму ад нашага шэфа, гер гехаймрата. Бедны!..

Хлопец падаў Ізольдзе невялічкі пакецік і, заўважаючы яе шаломную разгубленасць, зняў капялюш і схаваўся ў вулічным натоўпе.

Ізольда і не пацікавілася атрыманым, а з ранейшым настроем прайшла ў двор, паднялася на ўсходы і пазваніла фраў Гэпнер.

— Даруйце мне, я хачу зайсці ў братаў пакой... Яму трэба ўзяць пару бялізны, якую-колечы кніжку..

— Ну, як жа адчувае сябе гер Васэрман? — пацікавілася фрау Гэпнер.

— Цяжка, гнедыге фрау... Амаль што безнадзейна... Доктар суцяшае, але відаць...

Яна жаласліва пакруціла галавой.

— Няўжо? Што вы кажаце?!. Што за народ, што за людзі-ы. Займаздароў прыбіць чалавека. Ой, што ўжо робіцца зараз!.. Фройлейн Ізольда, ці не перавезці б брата дамоў?

Ізольда, як прыбітая, стаяла перад ёю з распячатаным пакецікам, трымаючы ў руках пісульку з наступным паведамленнем:

«Гер Васэрман!

Фэрвальтунг[1] фінансамта паведамляе Вас, што Вы з гэтага 20 чысла звальняецеся з займанай Вамі пасады бухгалтара.

Гехаймрат фон Гогенпіу
Лейтэр[2] штоерабтайлюнга Эске».

— У чым справа? — схапіла за руку Ізольду фрау Гэпнер.

— Э-эх! Во-а! Глядзеце! Аддзяка за старанную і адданую службу,— толькі і праказала яна, падаючы фрау Гэпнер паведамленне фінансамту і хаваючыся ў Германавым пакоі.

* * *

На другі дзень пасля гэтага, апоўдні, фрау Гэпнер прылягла адпачыць і ўздрамнула. Прарэзлівы званок,

---

[1] Упраўленне.
[2] Кіраўнік.

раздаўшыся ў калідоры, падняў яе з канапкі. Яна выбегла з пакоя і пачула чыюсьці трывожлівую гутарку.

«Што за праява?»

У момант яе здзіўленне ўперлася ў Германа Васэрмана.

«Напэўна!..»

Фраў Гэпнер не паспела крануць напіраўшай у галаў страшнай думкі пра Германаў лёс, калі перад адчыненымі дзвярыма паказаліся Ізольда і Мікалай Альтман.

Апошні трымаў у руках толькі што дастаны ад разносчыка ліст да Германа Васэрмана.

На сіняватым канверце выразна выдзялялася пячатка маскоўскага паштамта...

— Толькі на некалькі гадзін не заспела... Так... Ужо Германа не стала... Няма...

— Братка мой, ты ж, закрываючы вочы, пытаў мяне пра гэты ліст...

Ізольда скрала канчатак сказа ў балючай нервовай горнасці...

Не ў моцы стрымаць плачу, яна моўчкі паказала на дзверы ў братаў пакой і хутка схавалася ў ім...

— Мы прыйшлі па Германаў гарнітур,— паведаміў Мікола Альтман і выцер праслежаныя вочы.

— Ці ж хто думаў, фраў Гэпнер, што ўсё так хутка зробіцца?

Фраў Гэпнер спачувальна паківала галавой.

— Памятаеце, я перасцерагала Германа ад выхаду з кватэры, але ён не паслухаў... А маё сэрца...

— Ён, уміраючы нават, шкадаваў, што яму не ўдалося падаць свой голас за камуністаў... Дзе ж бы вы яго ўтрымалі?! Я і сам адгаворваў яго, ды ані кажы... І вось... суджана!

— А які ж харошы чалавек!..

Яны не паспелі вайсці да Ізольды ў пакой, як яна выйшла ім насустрач з чорным Германавым гарнітурам на руцэ...

Фраў Гэпнер моўчкі збегала да сябе і вынесла Ізольдзе два шырокія лісты пакуначнай паперы.

— Завярніце, фройлейн Ізольда.

Шапаценне паперы на момант прыцягнула да сябе іхнюю ўвагу.

Праз хвіліну гаспадыня з заслежанымі вачыма глядзела на сходы, па якіх паскоранай хадою спускаліся фройлейн Ізольда з Міколам Альтманам.

— Ах, ах, і які ж быў слаўны чалавек! — спагадліва праказала фраў Гэпнер і зачыніла дзверы.

# КАСЬЯН РУЛІН

## I

Касьян Рулін, токар па металу, раптам спыніў станок і рушыў да дзвярэй.

— Таварыш Рулін, у чым справа? — пацікавіўся майстар цэха, сурова зірнуўшы ў бок токара.

Той адмахнуўся на отсеб рукою і штосьці мармытнуў сабе ў нос.

— Чакай! Яшчэ няма перапынку...

Токара пераняў не загадны голас майстра, а старшыня заўкома, вясёлы, жыццерадасны Бумберг.

Алтарка, як таварыскі менавалі Бумберга, бег у майстэрню з мэтаю праверкі вырабу пальцаў для трактароў. Непаладкі, нарэшце, зжыліся,— майстар урачыста

давёў гэта старшыні заўкома,— праца наладзілася. Як гара з плеч! Маладзец Алтарка!

— Я да цябе, таварыш Бумберг! — перабіў яго ўзняты настрой Касьян Рулін.

Гутарка пачалася пры дзвярах.

— Маеш справу?

— А тую ж.

— Якую? Не памятаю.

Токар пачырванеў ад злосці. Сплюнуўшы на бок, ён напаўлаянкай выгукнуў:

— Кароткая памяць... Чаму, калі з мяне патрабуецца, ты доўга памятаеш.

З-за бліжэйшага тачыльнага станка данёсся к ім цікаўлівы ўзрок барадача Багатніка.

— Астынь, таварышы глядзяць.

Бумберг змяніў вясёлую міну на сур'ёзны выгляд: яго сабраны ўзрок крануўся Руліных вачэй. Токар не струсіў: яго перакошаны ад гневу твар гразіў старшыні заўкома непрыемнымі сюрпрызамі.

Алтарка ведаў Касьянаву натуру. Яго капрызы не раз выводзілі Бумберга з раўнавагі. Як заўсёды, старшыня заўкома спярша гнуў на сорам. Руліна гэта не прабірала: відаць было па настроі, што Касьян заўзяўся на сур'ёз.

— Кажы прэтэнзію.

— Я патрабую зняць з мяне вылік.

— То не ад мяне аднаго залежыць.

— Вы мне — во тут сядзіцё...

Чорны здаровы Касьянаў кулак грукнуў у месца, пад якім знаходзіцца сэрца. Бадай адначасна другая рука порстка тузанула за клямку дзвярэй, упусціўшы ў цёплую майстэрню густы струмень марознага паветра.

Падаспеўшы майстар цэха адмеціў на старшынёвым твары рысу, якое дагэтуль не заўважваў. І ў постаці Бумберга пружынілася сіла, што ў рэдкіх-рэдкіх выпадках да яе звяртаюцца падобныя Алтарку людзі.

— Прызаві яго да дысцыпліны, таварыш Мурок.

— Фельдфебеляў даўно пагналі к...

Бразнулі дзверы і спынілі сабою справядлівае абурэнне старшыні заўкома ды майстра цэха.

Рулін апынуўся па-за майстэрняй.

— Зноў мо' пра вылік? — павяртаючы ў праход між станкоў, справіўся ў Алтаркі Мурок.

— Бяда з ім ды годзе... Ты правяраў добра, можа гэта не яго брак?

— Вось яшчэ: што за недаверлівасць?

— Тады — без усякіх патворванняў...

— Зрабі раз-другі ўступку — ні ад Руліна, ні ад іншых клопату не абярэшся.

— Ведаю... Гэткіх хлапцоў трэба ўзяць у рукі.

Яны ўважліва правяралі работу станкоў, спраўляліся пра якасць апошняе дастаўкі сталі, аб загартаванасці зубіл. Мурок перадаў старшыні заўкома шаблон, і той прымераў да пяці толькі што выйшаўшых з-пад разца пальцаў.

— Малайчына, Мурок, ты выказаў сваё ўменне і стараннасць.

Майстар задаволена ўхмыляўся: Алтаркава рука, стукаўшая яго па леваму плечуку, казытала нутро. Дзесьці з яго глыбі, з-пад сэрца, узнялася нейкая жывільная струмень і разлілася па ўсёй істоце бадзёрым захапленнем. Майстра пацягнула да непасрэднай, пры станку, работы, ажно ён не ўцярпеў, адціснуў бліжэйшага рабочага ад станка і ў квадранец вытачыў дасканалы палец.

— Каб я сам... Пастаўце мяне, калі ласка, да станка, і я вам...

— Кінь-кінь-кінь... Тваё дзела...

Старшыні паказалі на дзверы, з якіх моўчкі, размеранымі крокамі, з апушчанай галавой вайшоў Касьян Рулін. Не азіраючыся па баках, ён задуменна прайшоў да свайго станка, пастаяў бязрушна і пачаў апранацца. Пару разоў ён зверыўся на гадзінніку, пэўна мяркуючы расцягнуць зборы да гудка. Першая яго нота рушыла токара з месца. Але ўзняты разрух папярашкодзіў яму вольна выйсці з завода. Насупіўшыся, Рулін спыніўся ў дзвярах у той момант, калі Алтарка Бумберг выйшаў да іх з праходу між станкамі.

— Праветрыўся крыху? — нязлосна праказаў ён хмураму, як ноч, токару.

— Гэтым вы мне не прыдасце хэнці да працы.

— Выбачай, калі я цябе пакрыўдзіў... Пры чым жа тут агульная справа?

— А я для вас гной?

— Таварыш Рулін, падумай, што ты гаворыш!

— Мне не трэба тваіх маралаў. Заўтра сам станавіся пры маім станку... Так...

Тут ужо было не да развяг — Алтарка бачыў перад сабою чалавека, з якім трэба гаварыць інакшай мовай.

Зараз Рулін дэманстраваў нядобрымі паводзінамі і выдаваў сябе за шкоднага, беспадстаўнага скаржніка з рвацкім задзёрам.

Алтарка ўпічліва паківаў галавою. Злосць страсянула яго істоту. За дзвярыма майстэрні ён правёў Касьяна суровым узрокам і выказаў наспеўшую думку: — Добры майстар, а з дзівацтвам.

## II

Два гудкі, тоўсты хрыпаваты і звонкі тэнаровы, адначасна забранчэлі па шыбах у акне Руліна пакоя. Ніводзін з іх не быў з яго прадпрыемства. Тоўсты належаў трыкатажнай фабрыцы, тэнаровы — гарбарскаму заводу. Няўжо Касьян праслухаў сірэну з «Пераможца»?

Ён прыўзняўся на ложку і зазірнуў у акно: лёгкая шэрань золку разлівалася рэдкаю сталлю. Сціраліся контуры цьмяных прадметаў. Часты тупат рабочых, што спяшалі на працу, выразна аддаваўся ў свежым паветры. Час, калі Рулін звычайна ўставаў: нават сон дзесьці збег.

— Касьян, Касьян! Пара ўставаць!

У жончыным голасе зычэла прыкметная трывога — яна запазнілася будзіць мужа.

— Зараз!

Адказ не падобіўся на заўсёдашні, чаму жонка папярэдзіла:

— Палова восьмай!

— Паспею.

Марцэля дарма нервавала, завіхаючыся з прымусам: вар падстыў, пакуль Касьян сабраўся піць чай. Ён не звярнуў жончынай увагі на гэта: паважна, з роздумам запіваў, вяла жуючы, маслам намазаны хлеб. Ну, чаму ж у яго гэткая павольнасць?

— Я заявіў учора, што на паўгадзіны спазнюся,— астудзіў жончына здзіўленне Касьян.

Але яно вярнулася да кабеціны, калі ён пакінуў кватэру пазней звычайнага мо' на паўгадзіны.

Марцэля пацікавілася на мужаву хаду, глянуўшы ў акно. Касьян ішоў па-інакшаму як цёнгля: ужо яго паходка сведчыла пра штосьці асаблівае. Жонка выйшла ў

двор і праз варотцы паглядала ў бок, куды накіраваўся муж. Заварат адняў з яе ваччу Касьяна, у думках мітусіўся неспакой. Думкі жывахоць нырпаліліся ў галаве, шукаючы няведамых прычын і няясных здарэнняў, пра вошта Касьян упарта маўчаў.

Дзеці перабілі Марцэліну ўвагу; яны, збіраючыся ў школу, засыпалі яе разнастайнымі патрабаваннямі. Цяжка было абяцаць іх выпаўніць, у кожным разе пакупкі яна зробіць. Вось разам з імі пойдзе ў горад і...

На выхадзе з двара дзеці з маткаю стрэлі бацьку: Касьян шпацыровачнымі крокамі вяртаўся дамоў. Марцэля вытарашчыла вочы.

— Ты сёння зусім не пойдзеш на працу?

— Не пайду.

У кабеціны напрашвалася жаданне дапытацца прычыны, але муж схаваўся ў двары, а дзеці цягнулі з сабою.

— Ты нездароў, Касьян? — кінула яна запытанне мужу, няведаючы, ці яно да яго дойдзе.

— Ідзі, куды ідзеш!

Разгневаная, у скрытным хваляванні, Марцэля не магла супакоіцца, гаворачы хлопчыкам пра сшыткі і пеналы, пра чырвоныя гальштукі і канькі. Каб было не бескарысна, яна, бадай, вярнулася б назад. Касьян мусіў бы выкрыць ёй праўду, ды...

Трайма, маці і двое дзяцей, як па ўказцы, азірнуліся назад: трохпавярховы чырвоны мур скарачаў да гоняў паўкіламетровы праход ад дому.

Касьян якраз выходзіў з двара, ды яны не маглі яго бачыць.

Дзеці раздзяваліся ў шырокім і светлым калідоры школы, а Марцэля заносіла пальцам на язык каліва мас-

ла, прабуючы яго якасць, калі Рулін падышоў да няскончанае стройкі новага корпуса «Пераможца».

З-за высокага тына, запярэшчанага надпісамі, неслася бурлівая струмень разнастайных гукаў, свісту, бразгу. У іх злітным, напеўным шоламе, аднак, не магла схавацца выкліканая к жыццю вострым уяўленнем спецыфічная нотка, што спускаў яе новы Касьянаў станок сваім шпаркім вярчэннем. «Хто сёння за ім назірае?»

— Няхай, хто хоць,— перацяў сумлівыя ваганні Рулін і даў волю злачыннаму жаданню. Каб яго арэчавіць — токар ткнуў пальцам у цёмнае акно, за якім мясціўся кабінет Алтаркі Бумберга.— Не быць Касьяну на «Пераможцы».

Надпісы развеялі яго змрочныя намеры; ён падышоў на адгон сажню ад тына і прачытаў:

«Лодыр, бракароб, прагульшчык — агенты класавага ворага!»

Хапала аднэй — яна трапна кранула месца ў Касьянавым нутры, на якім завязаўся ўчарашні намер. Раптам яму зрабілася не то млосна, не то балюча: каб прымеў, ён пераскочыў бы апукаю, праз тын і...

Алтарка вырас у яго ваччу ў жывы папрок. Між літар надпісу мігалі непатрэбныя, злыя думкі, папхнуўшыя Касьяна на ўчынак, які...

Штосьці пераймала прызнанне свае віны. Касьян чужою нядобрай характарыстыкай перабіраў баявыя лозунгі. Ён пасягаў на іх жывое ўздзеянне, намерваўся выняць для спрэчкі коўзкія аргументы, як знянацку хтосьці тузануў яго за рукаў.

Касьянава постаць адказала нервовым уздрыгам. Рулін знячэўку выбачыўся:

— Калі ласка!

Лейзар Шамес, яго сусед па рабоце, здзіўлена паглядзеў на таварыша.

— Ты ж чаму сёння не на працы?

— Не хачу.

— Усяго і матываў?

— Толькі.

Лейзар упічліва замармытаў:

«Рулін забываецца — ён недаацэньвае становішча».

— Ці не забыў ты дэкрэта аб прагульшчыках?

Чырвоныя вішні пракаціліся Касьянавым тварам.

— Памятаю... Але заводскія парадкі...— Наступны момант знізіў і змякчыў яго жорсткі тон: — Разумееш, Лейзар, са мною нячэсна паступілі. Ты ж мяне ведаеш: калі я зрабіў якую шкоду? А гэта здарылася проста міжволі... і з бюджэту трыццаць рублёў... Падумай, таварыш Шамес!..

— Трапляецца, ніц не парадзіш.

— Альбо завод збанкрутаваў бы, каб мне даравалі? Ды, ведаю, тут Алтарка зубы точыць на мяне...— Рулін стаў так, каб пераняць Шамесу дарогу. Кожны Лейзараў поверт выклікаў Касьянаву вострую настарожлівасць.

— Ты ў гэтым памыляешся. Спусціць табе за псуту, вольную ці знарочыстую,— ні Алтарка, ні ўвесь склад заўкома, ні бюро парткалектыву — не могуць... ды не маюць права. Падумай сам, што на гэта скажуць Шалаі ды Рыбнікі, гэтыя заўзятыя бракаробы? Як рэагавацьме наогул увесь цэх?

Шамесавы довады панталыжылі Рулінавы меркаванні. Касьян не мог уявіць іх устаноўкі ды сэнсу. Няясным паказалася яму Лейзарава пазіцыя: сусед і таварыш, выходзіла, таксама схіляўся на бок Алтаркі. Няўжо?

Рулін прыкусіў язык; яго думкі мігам спляталіся ў глухі вузел і аднялі на момант мову. Лейзар Шамес бесперашкодна зрабіў пару крокаў ад Касьяна.

— На адну хвілінку!

— Зараз вярнуся.

— Я не буду чакаць... Скажы, Лейзар, хто працуе на маім станку?

— Ах, я забыў сказаць: Плошкін... і, сукін сын, зламаў пару шасцяронак... Гэта з-за твайго прагулу,— кіўнуў пальцам Шамес.

Касьян Рулін не паспеў выказаць вострай лаянкі, якая напорыста праціскалася ў горле, як Лейзар схаваўся ў будынку ІТР.

З табельнае выйшла трое рабочых: усе яны мо з хвіліну глядзелі ў Касьянаў бок. Стаяць ад гэтага яму аднаму пад тынам, разглядаць завучаныя, прайшоўшыя ў нутро сваім лёзам надпісы, было яшчэ горш ніякавата. Безнамерна і бязмэтна ён сарваўся з месца і накіраваўся ўгору па вузкай завілай вуліцы. Беспадстаўная крыўда на Бумберга хапалася за яго пачуцці.

## III

«Марцэля з Бронісем Папяровічам?»

Касьян не памыляўся — то былі яны. Замуляла едкая прыкрасць. Ці ж можна сумнявацца, што гутарка ідзе пра яго? Марцэля неспакойліва верціцца на месцы, а Броніс раз за разам сцвярджальна ківае галавою.

«Не варта пападаць ім на вочы».

Касьян вярнуўся на левую панель і павярнуў у завулак, які выводзіў на прыгараднае ўзвышша. Пакуль ён апынуўся на месцы, адкуль можна было назіраць бага-

тую панараму ваколічных будынкаў і крыху ўправа чатыры шэрых карпусы «Пераможца», Марцэля атрымала ад Броніся поўную інфармацыю пра мужа.

— Яго на рабоце сёння не было,— паведамляў занепакоенай жонцы Папяровіч.— Я наведваў заўком, і Алтарка Бумберг пагражаў яму нецікавымі рэчамі. Бач, гэта ж прагул...

— Разлічаць, чаго добрага? — дазнавалася Марцэля, тут жа дакараючы Касьяна: — І што яму ўпала ў галаву! Звар'яцеў чалавек, ці якое ліха. Крый чаго... Хадзіў-хадзіў дзень у дзень, акуратна, а гэта... прагул!..

— Так, зараз... ды ніколі... прагулам не патвораюць. Тым болей, што нашаму брату рабочаму пара самому разумець, на каго і дзе ён працуе. У Касьяна часамі вырываецца непатрэбная вольнасць...

— Але, але... братка мой, каб ведаў, колькі разоў я вымаўляла яго дзяцінства... Бывае — паслухае, а гэта — украдкі... жа-арты-і, не пайсці на працу!.. Няхай бы ўжо гэты вылік... за ўсяголаў ён... А каб пакралі з хаты, ці, крый чаго, іншае няшчасце? У жыцці ці ж не бывае?

— Дарэмна ён пайшоў на гэта... Не хвалю Касьяна... Ды, якраз, вазьмі, Плошкін — звіхні станок, новы, як лялька...

— Што-а ты кажаш, што-а ты!.. Броніська, прашу цябе, калі дойдзе справа да дрэннага — уступіся... прашу — уступіся.

Броніська Папяровіч даў Марцэлі няпэўную абяцанку, і яна няўсцешанай пайшла да сябе. Кабета туліла пад жоўтым кажушком уразенае сэрца, і думкі рэялі, як разварушаныя пчолы.

Касьян, Касьян!

Перад заходам у двор Марцэля праверыла абодвы

канцы вуліцы — мужа не відаць. «Дзе ж ён? Як жа паведаміць яму пра станок, выхвалены ім, як любае дзіця?»

У гэтым пункце былі лішнімі Марцэліны хвалянанні: казаць ужо не патрабуецца. У гэтыя хвіліны станок займае і Касьянавы думкі. Ахаяны, праверaны, прынакрыты мяшком, ён блішчэў у Руліным уяўленні, як звычайна ў сапраўднасці. Точны ход, падмазаныя трубкі, спружынкі і вінцікі. Пруткі ўтрым зубіла; роўны, гладка сшыты рамень. А пасля Плошкіна? «Ы-эх-з...» Іскраю бліснула рашучасць: зараз жа вярнуцца ў майстэрню, адштурхнуць наймацней недарэку Плошкіна і... дзесяць, дваццаць, трыццаць, наўзабой, суцэльным ланцугом тачыць-тачыць беззаганныя пальцы... «Бач, трактары чакаюць. У МТМ кіпіць праца па рамонту. Вясенняя сяўба, уборка чакаюць спраўных, абноўленых машын, а я...»

Ногі не чакалі вялення рушыць з месца. Касьян паскоранымі крокамі змяраў няроўны завулак. Перад ім стаяла тыльная сцяна якогасьці хлява, калі ён уздумаў яшчэ раз зірнуць на высокі комін «Пераможца». Дарма — праз паўгадзіны ён апыніцца перад табельнай. Не пойдзе да Алтаркі — на што? — накіруе праўцом у такарню і без усялякага попыту — зоймецца точкаю.

Але там, адкуль надовечы ўгледзеў жонку з Папяровічам, Касьяна напаткаў гудок. Не абедзенны, а вяшчаўшы пятую гадзіну. Ён прыпыніўся ў нерашучасці, пасля павярнуў на кватэру. Нацягнутыя нервы не абяцалі нічога добрага, і першае запытанне Марцэлі ледзь не выклікала буру. Касьян не мог бы вытлумачыць сабе, што за акалічнасць ацяла яго душэўную завостранасць.

— Не працаваў, ведаеш,— не горда, а ўнізліва адпавеў ён жонцы.

Кабеціна пашкадавала мужа і замест ушчунку кінула яму едкую заўвагу:

— Не так ты зрабіў, як трэба, не так. Прагул — гэта пляма... чорная пляма...

— Маўчы, я можа заўтра выпраўлю свой учынак...

— Каб жа хоць выправіў, а як ды...

Касьян спыніў жонку крутым махам рукі, але не спыніў яе сумнення. Яна моўчкі, сціскаючыся, частавала яго незаробленай вячэрай. Ён еў з раздумам, далёка без той заўзентай гардлівасці, з якою пераступіў парог учора вечарам.

«Праўда»...

Прызнанне ўпіралася ў якуюсьці цвёрдую сцяну.

«Яшчэ ці ж праўда?»

Выйсця не было — жаднай светлай прагалінкі, якая б легла на яго апраўданні.

«Алтарка, ён...»

І дзіва — доўгі шнурок брыдкіх выбрыкаў расцёгся ў шэрань мінулага.

«Алтарка не вінаваты, не...»

Старшыню заўкома змяняў майстар цэха.

Чаго ён учора займаздароў да яго прыстаў? Заўсёдашні негавар, маўчун, на гэты раз Мурок выказаў сябе...

Касьян неўраўнаважаным паклаўся спаць двыма гадзінамі раней ад звычайнага.

## IV

Броніс Папяровіч з Лейзарам Шамесам пакінулі Касьяна Руліна перад акном заўкома і схаваліся ў калідоры табельнай. Касьян нават чуў, як таварышы павесілі, бразнуўшы, жоўтыя, круглыя нумаркі. І стук варот

у майстэрні быў той жа, глухі і мяккі. І посвіст пушчанай трансмісіі. Далей-далей заверцяцца станкі, забрашчыць лябёдка, зашмаруюць напільнікі. Следам пачнецца тое, што завецца працаю, вядомай ды зразумелай Касьяну, але ўжо, здаецца, чужаватай, няласкавай.

Годзе!

Касьян рашучым рыўком зняўся з месца і апынуўся ў чатырохкутным сумнаватым пакоі. Трое чалавек займалі свае сталы: па левую руку машыністка, направа — рэгістратарша, перад ім — старшыня заўкома, Алтарка Бумберг. Жанкі паднялі вочы на Руліна і мігам апусцілі, як нічога не бывала. Алтарка пісаў, мэрам не заўважаючы Касьяна.

— Добры дзень, таварыш Бумберг!

— А-а!

Прыветнасць у голасе абяцала невядомае.

— Я ўчора зрабіў...

— Дрэнна-дрэнна зрабіў, таварыш Рулін. Наракай на сябе. Ты аднёсся да завода, да нашага, савецкага прадпрыемства, як да свайго ворага. Хоць ты і маеш шмат заўваг за сваё дзівацтва — усё ж я не чакаў ад цябе апошняга ўчынку. Ніхто не чакаў. А калі праведае калектыў у цалку...

Алтарка пісаў і гаварыў. Яго роўны вымераны ўзрок свідраваў Касьянавы прыжмураныя, сарамлівыя вочы.

— Што ж...

Рулін адчуваў сваю неправату, але чакаў слова, намёка, морга Бумбергавых веек, хоць чаго выбачлівага, абы хоць каліва адпусцілася пружыністасць нерваў.

— Нічога... Ты разлічаны з завода...

— Таварыш старшыня, дайце рады... Няўжо вы ба-

чыце ва мне ворага? Дзесяць гадоў беззаганнае працы, а гэта за адзін дзень прагулу...

— Злоснага прагулу, не забудзь. У дадатак — твая віна ў псуце станка... Вучыся, таварыш Рулін... Каму-каму, а табе пара агойтацца. Табе даравалі тваю капрызлівасць, шкодную і дзікую. На твае гутаркі махалі рукою — а мо' то хвілінны, пераходны настрой. Сапраўды ж вунь куды яно закацілася! Прыходзь за разлікам...

Старшыня заўкома кінуў пісаць і ўпарта глядзеў на Касьяна. Гэта скоўвала токараву волю і мярцвіла яго рэч. Пачуццё гнала словы, але роздум не знаходзіў у іх патрэбы. Спакойны выгляд Бумберга наўрад ці кранула бы хоць што. Ён гаварыў Руліну не ад сябе: у яго адказе злілася агульная думка трыкутніка. Важкія калючыя сказы перадавалі прагульшчыку адносіны да яго завода, майстэрні, станка — жывога, складанага механізма, на якім ляжала высокае прызванне багаціць дасягнутыя поспехі сацыялістычнае стройкі.

Касьян Рулін выйшаў з памяшкання заўкома разбітым, абяззброеным, нячэмным. Ногі не паслухалі прайсці дзесятак сажняў да кабінета сакратара партналектыву. Напамінак аб дырэктару гаварыў пра бескарыснасць яго наведаў.

Бальнейшай аставалася дарога на кватэру. Цэлы кіламетр — а вось яму ўсплыве збавіцельная думка і дасць палёгку. А Марцэля? Чуллівае сэрца! Ён вернецца і скажа: цалкам віноўен — здурнаваў. Даруй, жонка!

На паўдарозе Касьян хапіўся за ўважлівыя прычыны, якімі апёруе жыццё.

Бывае... Што ж... Мацвей Крупенік?

Таварыш-гарбар весела прывітаўся.

— Ты, я бачу, сумуеш аб нечым?

— Справы не вяселяць.

— Якавы?

— Разлічылі з завода.

— Разлічылі з завода, за што?

— За прагул.

— Гэта ўжо нецікава... За прагул! Скажы мне, будзь ласкаў, што ж табе надало ў гэткай форме закапрызіць? Не чакаў, таварыш Рулін, не спадзяваўся ад цябе.

Касьян не рымсціўся на месцы; усярэдзіне бушавала атрутлівая злосць; узрокі апускаліся долу. Падбівала да апраўдання, ды на яго не хапала падстаў, грунту. Ногі стаялі няцвёрда — хістка.

— Вылік, разумееш, за няма нішто... Упартасць старшыні заўкома, ці пом...

— Так-такі і ўпэўнены ва ўсё гэта?

Супроць Крупенікавай сур'ёзнасці ў тоне і ў выглядзе да холаду спакойнага твару — цяжка рабілася ўстаяць на месцы. Адказу нельга было сфармуляваць. Касьян маўчаў.

— Прагул — зброя класавага ворага. Ці ж можна, пасудзі сам, дэманстраваць падобнымі сродкамі! Мы... рабочы клас... на чале з нашай мужнаю партыяй... мы будуем, пакладаем усе свае старанні на хутчэйшае ажыццяўленне сацыялізма, а другія... і ты з імі... знаходзіш дзёрзкасць прагульваць... Га-а? Скажы мне, якавы гэта прыклад менш устойлівым таварышам? Або ты думаў пра гэта? Не хвалю, н-не-э, таварыш Рулін. Маракуй на сябе...

— Мацвей... Таварыш Крупенік, я не меў намеру дэманстраваць... я...

Няпраўда туга падавалася афармленню. Касьян ад-

ступаў няўмела, бо чуў ужо на сэрцы дакорлівае нагняценне.

У разгубе ён не пачуў кінутага яму Мацвеем развітання. Крупенік быў на адгоне да дзесяці сажняў, калі Рулін скмеціў яго адсутнасць. Пакінутае гарбаром уражанне на Касьяна няўзрочна цiснула яго, як жалезным абручом, трымаючы на месцы. З натугай рушыўшы ісці, ён адчуваў непераможны цяжар. І празрысты адвячорак завесіўся смуглым мігатлівым вэлюмам.

Касьян да самае кватэры не ўлавіў ніводнае выразнае, закончанае думкі. Востры Марцэлін упік каўзануў між яго ашаломленага вушшу.

— Кажы ж, га, Касьян, цябе зволілі? — пераказала яна запытанне.

Навошта было шавяліць вуснамі ды варочаць языком, каб сказаць тое, што льга зразу прачытаць на твары? Нехлямяжы мах рукі вытлумачыў усё.

— Ай-ай, яй! Касьян, Касьян! Што ты сабе нарабіў!

Ясна. Руліну не аставалася спадзявацца на патворанне свайму выбрыку. Нельга таксама ўсіх западозрыць у зговары супроць сябе. Вінаваты...

Адбыўшы запознены абед як фармальнасць, ён моўчкі сеў за напісанне ліста ў заўком.

«Дарагія таварышы!»

Далей не знаходзілася слоў на пажаданы сказ. Бач, гэтым сказам трэба пераналастроіць Алтарку Бумберга і даць яму зразумець праісцінную падаплёку свайму ўчынку. Вылік не павінен фігураваць. На адкрытую душу!

«Я вінават. Я вінават, па-першае, таму, што свае прыватныя інтарэсы пераважыў над агульнымі. Я вінават, па-

другое, чаму пайшоў на гэткі дрэнны ўчынак, як прагул. Я не вырабіў пяцьдзесят штук пальцаў і затрымаў папраўку некалькіх трактароў. Я страціў дзень, якога не вярну. Праз мяне звіхтавалі станок... Мой цяжкі праступак... паводзіны горшага рабочага... учынак зрыўшчыка... Я стаў на варожы шлях...

Дарагія таварышы!

Запэўняю заўком, парткалектыў, усю заводскую грамадскасць — што гэта я пакрыю... згладжу... выпраўлю... Верце мне, як чэснаму пралетару. Вярнеце ў майстэрню... Да майго станка, да «Камсамольца». Бывайце.

Токар Касьян Рулін».

Напісанае начорна было перапісана начыста. Змест не даваў усяго, што хвалявала Касьяна, але ён чуўся бязмоцным пасіліць шчырасць заявы. Нават адрас з двух слоў ледзьве ўлажыўся напісаннем у цэлую гадзіну. І калі заява апынулася ў шэрым канверце, Касьян палічыў сябе вольным, каб легчы спаць.

## V

То быў час, у які сыходзяць апошнія хвіліны сну. Яшчэ квадранец, яшчэ некалькі момантаў, і пачнецца ўставанне. Па ціхім гарадскім вуліцам і завулкам зашнуруюць сотні і тысячы рабочых. Загрукацяць у звонкім паветры клапатлівыя крокі ног. Ахопленыя працоўным уздымам і пільнаю акуратнасцю, заспяшаць у бок фабрычных ваколіц бадзёрыя будаўнікі новага, сацыялістычнага жыцця. Жывымі, рэзвымі струменнямі пальюцца ў адчыненыя вароты заводаў і фабрык кіраўнікі станкоў, распальнікі печаў, слесары, малатабойцы, катляры, аўта-

геншчыкі. Рэзвыя сірэны адкрыюць разгойданы рух творчае працы. Пачнецца дзень...

Касьян Рулін адзінотным парушаў перадабудную цішу, спяшаючы к заводу «Пераможац». Наўсцяж кіламетру ніхто не стрэўся яму на дарозе. Вартавы міліцыянер, выткнуўшы з прызаводскай будкі голаў, быў першым, хто ўгледзеў Касьяна.

— Ты куды?

— На працу... Але я пачакаю таварыша... Шамеса.

Міліцыянер узяў яго на вока. Касьяну рабілася ніякавата, не таму, што за ім назіраюць. У яго нутры згрудзіўся ком трывожлівых адчуванняў. Ён неўтрапёна тупаў два-тры крокі наперад і стольні ж назад. Гэта былі жорсткія хвіліны кандэнсацыі адказнага рашэння. Адно штосьці штурхала токара на спатканне з Алтаркам Бумбергам тут во, на вуліцы, на вачах міліцыянера. Другое, больш памяркоўнае, радзіла з'явіцца да старшыні заўкома ў кабінет і спакойна падаць яму заяву.

Правая рука ўпэўнена трымала жорсткі канверт. Змест заявы не выклікаў сумнення. Толькі б хутчэй яна стала вядома каму след. Няхай бы той Алтарка на сённі прыспяшыў сваім прыходам. Так доўга яго няма!.. Ды нікога няма. Касьян гатоў быў западозрыць увесь рабочы калектыў у фармальных адносінах да працы: няйначай з'акурацірь к гудку. Перахаўкне другі, калі...

Ён прагаварыўся: з-за рогу заводскага тыну выйшла першых трое рабочых. Яны прайшлі міма яго, амаль не зірнуўшы. Чаму? Ласне ім вядома, з кім маюць справу? Напэўна! Прагул кваліфікаванага стажнага токара ўжо вядомы ўсяму заводу. Каму ён, Касьян, цяпер цікавы?

Каб гэтага не паўтарылася, Рулін адышоў да рагавога будынка і стаў пры сцяне. Рабочыя, што пацяклі з усіх

канцоў, раздрабілі яго ўвагу. Гледзячы ўправа, ён прапусціў Лейзара Шамеса, Плошкіна, майстра Мурка. Добра, што яны яго не прыкмецілі! А калі знарок?

Тыя хаваліся ў варотцах табельнае, калі Касьяну заруціла іх аклікнуць. Вокліч ужо дасяг кончыка языка, ды замёр — ён аддумаў.

Будзе час. А цяпер... Напэўна, заўкомаўская машыністка накіравала ў памяшканне заўкома. Латва! Касьян пойдзе за ёй і паложыць на Бумбергавым стале заяву. Манеўр спадабаўся.

Праз дзесяць хвілін гэта было зроблена. Машыністка нават і не заўважыла, што ён быў у памяшканні: яна ў гэты момант перабірала паперы за шырокімі дзверцамі кніжнае шафы. Ды рэч не ў тым — Касьян не хаваўся. Наадварот, яму здавалася, што тупацеў даволі гучна. Хацелася, каб на калідоры ці на ўсходах напаткаць Алтарку, або яшчэ лепш — сакратара парткалектыву. Ніхто не стрэўся.

«Пайду ў майстэрню і стану за працу».

Тлумачэнняў і матываў гэтаму раптоўнаму рашэнню Рулін не шукаў. Ён быў рад яго нараджэнню і хапіўся, як за знаходку. Можа дзякуючы напорнай упэўненасці, Касьян гладка прайшоў табельную, заводскі двор, усю даўжыню такарні і незаўважаным апынуўся пры станку.

Рукі порстка забегалі па папярэдняй каробцы, завярцелі шасцяронкі, прарэвізавалі заціск разца. Усё было ў спраўнасці — нехта, відаць, паспеў наладзіць станок. Добра! Ён першым уставіў кавалак сталі для пальца і першым закруціў станок.

— А гэта што? — пачуў Касьян з-за плеч пры першым завітку стружкі. Следам на правай лапатцы лёг якісьці цяжар.

— Не перашкодзіць! — гукнуў ён.

Плошкін — то быў Плошкін — голасна зарагатаў.

— Пусці!

— Убірайся, кажу. Станок мой і пакуль цэлы...

— Пусці, кажу табе.

Знянацкі штуршок збіў Касьяна з месца.

Пры суседніх станках насаражыліся.

— Т-ты!!.

Хто глядзеў у іх бок, бачыў, як перад Плошкіным тварам мігнулася рука з абрубкам сталі ў жмені.

Наступная хвіліна суліла розныя нечаканасці, але іх пераняў падбегшы Мурок.

Майстар, аднак, чакаў не таго, што ўгледзеў: ён быў ашаломлены, заўважыўшы перад сабою ў спецхалаце Касьяна Руліна.

— Ты ж хіба Касьян?.. якім чынам?..

Мурок адвёў руку.

— Я цябе не дапушчу да працы, таварыш Рулін...

— Чаму? Не перашкодзь, прашу.

— Табе вядома, паважаны...

— Мне невядома...

— Станавіся, Плошкін, пры станку.

Рулін загарадзіў станок.

— Пазаві старшыню заўкома.

Мурок апаў у настроі, махнуў рабочым, каб тыя не адцягалі ўвагі на інцыдэнт з Касьянам, і выбег з майстэрні. Плошкін стаяў у нерашучасці і ў невядомасці.

Рулін устаўляў другі палец для точкі.

Разец удала рысаваў белую палоску, уючы далікатную спіраль гнуткае стружкі. Да дзіву плаўка хадзілі шасцяронкі. Касьян лагодна сачыў за працэсам точкі. Першы палец выйшаў дасканалым. Другі...

У варотах паказаўся Алтарка Бумберг: Рулін інстынктыўна пачуў яго з'яўленне ў майстэрні і трывожна азірнуўся. Старшыня нёс у руцэ разгорнуты лісток паперы — ясна, яго, Касьянава, заява.

— Таварыш Рулін, хто табе дазволіў самаўпраўна ісці ў майстэрню? Кінь станок!

Касьян сабраў усю сваю шчырасць і выліў яе ў свой адказ старшыні заўкома.

— Я хачу апраўдаць сваю віну.

— Гэткім парадкам?

— У ім няма ні чорных хітрыкаў, ні злых намераў.

— Пойдам да таварыша Плотніка ў бюро парткалектыву.

— Я прашу адлажыць на абедзенны перапынак. За гэты час я вытачу дваццаць пальцаў. Станок так добра працуе!

Алтарка Бумберг не мог скрыць таго, чаго Касьян Рулін прагна чакаў, пачынаючы з ранняе раніцы, і адвярнуўся да станка.

Старшыня заўкома пераззірнуўся з майстрам цэха і, адступіўшы на тры крокі ад Руліна, праказаў дырэктыўна:

— Не чапай яго — няхай працуе. Зрабіўшы праступак, ён умеў яго прызнаць і выправіць.

## КАМЕНТАРЫІ І ЗАЎВАГІ

Большасць апавяданняў, якія змешчаны ў гэтым зборніку, напісаны Цішкам Гартным у 20—30 гг., калі арфаграфічныя нормы ў асноўным грунтаваліся на «Беларускай граматыцы для школ» Б. Тарашкевіча, выдадзенай яшчэ ў 1919 г. Гэтыя нормы ў многіх адносінах былі не дасканалымі. Узнікшая, напрыклад, у выніку асіміляцыі мяккасць зычных перадавалася напісаннем мяккага знака (зьбег, сьлед, есьці, жыцьцё). У словах іншамоўнага паходжання перадавалася мяккасць «л» (філёзофія, лёкомотыў, рэглямант), цвёрдасць зычных перад галоснымі пярэдняга рада характэрная для іншых моў (манэўр, фэйерверк, пропозыцыя) і г. д. Прыведзеныя тут прыклады ўзяты з апавяданняў Цішкі Гартнага.

Відавочна, што такое напісанне не адлюстроўвала асаблівасцей жывой народнай мовы і таму ў пэўнай ступені было штучным. Гэта быў перыяд станаўлення і развіцця беларускай літаратурнай мовы. Тады не былі яшчэ ўсталяванымі і словаўтваральныя сродкі. Шмат якія словы пісьменнікі ўтварылі па іх уласнаму густу

і жаданню. Так, Гартны замест суфікса назоўніка «-нік» ужывае «-ач» (наведвальнік — наведывач), замест суфікса якаснага прыметніка «-ов-» выкарыстоўвае два суфіксы «-ав-» і «-іт-» (талковы — талкавіты), у дзеяслове 3 асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу ў слове «дырыжыруе» (па паходжанню французскае) суфікс «-ыр-» апускае і атрымоўваецца штучная форма слова «дырыгуе».

Цішка Гартны памёр у 1937 г. Калі б быў жыў, несумненна, што пры падрыхтоўцы да перавыдання сваіх твораў ён унёс бы пэўныя тэкставыя папраўкі, формы асобных слоў і словы цалкам, якія нам уяўляюцца архаічнымі (гасподы, башта), дыялектнымі (панырпаліць, цураха), неалагізмамі, што не прыжыліся ў літаратурнай мове (ашашованы, трапунковае начальства), былі б заменены літаратурнымі. Змянілася б і канструкцыя некаторых сказаў і словазлучэнняў, праясніўся б іх сэнс. Замест «...ён пачуў сябе больш уверана ў дадатны канец» Гартны, мабыць, напісаў бы цяпер «...ён адчуваў сябе больш упэўненым у станоўчым вырашэнні пытання». Замест «...пара ўзыйсці на вышэйшую ступеню» было б напісана, думаецца, «...пара ўзыйсці на вышэйшую ступень». Інакш бы пабудаваў Гартны і такія сказы, як «Бліснуўшы перад ім вобраз Сымона Кошыка адцягнуў зашмаргу задумаў; Раптоўна прайшоўшым гулам сход кампенсаваў і гэту Яўсееву прапазіцыю; У яго з самага ранку, толькі што прачнуўшыся, склаўся гатовы план вызыску грошы к святам» і г. д.

Тады, безумоўна, было б значна менш і папрокаў аўтару за празмернае ўвядзенне ў літаратурную мову дыялектызмаў, за самабытнае словаўтварэнне і «за цяжкі кніжны сінтаксіс».

Але пры ўсіх моўных недахопах мы павінны адзначыць, што лексіка і фразеалогія апавяданняў Цішкі Гартнага багатая і цікавая. Яна народная ў самым шырокім сэнсе гэтага слова.

Есць у Гартнага і сказы, якія гучаць па-народнаму. Вось некаторыя ўстойлівыя словазлучэнні, прыказкі і прымаўкі, якія мо-

гуць служыць прыкладам гэтага: вокам не кінуў, узяў на вока, тачыць зубы, на яго цураха, прыгнала нядобрая, учапіўся рукамі і нагамі, першы блін камяком, накінуліся з пенай у роце, аброць вам на язык; пакуль жаніцца — загаіцца, чалавек — не жалеза, спакусы многа ўсякае і г. д.

У тыя гады не была яшчэ дасканалай і друкарская практыка. Аб гэтым сведчаць разнастайныя памылкі, якія знаходзім у творах, што ўвайшлі ў гэтую кнігу («елкі» замест «енкі», «пазнаў» — «пазваў», «Платонавічам» — «Платовічам», «паяснілі» — «паясніла», «Гарбусь» — «Габрусь» і г. д.). Там, дзе былі сумненні ў правільнасці напісання або формы тых ці іншых слоў, даводзілася зверыць іх з напісаннем і формай у іншых выданнях гэтага твора.

Апавяданні, якія тут змешчаны, пададзены па сучаснаму правапісу, заўважаныя друкарскія памылкі выпраўлены.

Значэнні незразумелых слоў вытлумачаны ў большасці згодна іх значэння ў кантэксце.

Апавяданні размешчаны ў такой храналагічнай паслядоўнасці, як яны з'яўляліся ў друку.

Апавяданні «Лайдак», «Дойдзем, сынок», «Трэскі на хвалях», «Прысады», «Гаспадар», «Смерць Германа Васэрмана» ў бягучым годзе рускімі пісьменнікамі перакладзены на рускую мову і выдадзены асобнай кнігай пад назвай «Хозяин» (Гослитиздат, Москва — Ленинград, 1962). Пасляслоўе да кнігі «Хозяин» напісаў С. Александровіч.

**«Лайдак».** Стар. 21. Друкуецца па Збору твораў, т. II, БДВ, Мінск, 1929, стар. 12—17.

Мяркуецца, што апавяданне напісана ў дакастрычніцкі час. Упершыню апублікавана пад назвай «Распуснік» у газ. «Дзянніца», Масква, 1918, № 7. Пад назвай «Распуснік» яно было перакладзена Д. Снежкам на мову эсперанта і змешчана ў газ. «Heroldo de Esperanto», 1929, № 17, якая выходзіла ў гор. Кёльне.

Пад назвай «Лайдак» апавяданне змешчана ў кнізе «Трэскі

на хвалях», Мінск, 1924, стар. 9—13; потым у «Выбраных апавяданнях» (1926), у зб. «Прысады» (1930).

У 1962 г. гэты маленькі твор перакладзены на рускую мову (гл. зб. «Хозяин», стар. 133—137).

«Дзянніца» — першая савецкая газета на беларускай мове — орган Беларускага нацыянальнага камісарыята пры ўрадзе РСФСР. Першы нумар газеты выйшаў 1 сакавіка 1918 г. у Петраградзе. Рэдактар — З. Жылуновіч.

Потым рэдакцыя газеты пераехала ў Маскву. 6 красавіка 1918 г. у Маскве выйшаў шосты нумар «Дзянніцы». Да 23 нумара рэдактарамі газеты былі З. Жылуновіч і І. Пятровіч. З 24 нумара газету рэдагаваў друкарскі аддзел камісарыята, а з 40 нумара — рэдакцыйная калегія.

Апошні, 49 нумар «Дзянніцы» выйшаў 3 снежня 1918 года. У «Дзянніцы» ўпершыню ўбачылі свет шмат якія вершы, байкі, фельетоны, апавяданні, артыкулы Цішкі Гартнага.

**Велікодная каробка.** Стар. 28. Друкуецца па Збору твораў, т. II, БДВ, Мінск, 1929, стар. 18—28.

Упершыню надрукавана пад назвай «Іх свята» (Велікодны сказ) у газ. «Дзянніца», Масква, 1918, № 11.

Потым перавыдавалася ў зб. «Трэскі на хвалях» (1924), «Выбраныя апавяданні» (1926).

**Штрэйкбрэхер.** Стар. 41. Друкуецца па Збору твораў, т. II, БДВ, Мінск, 1929, стар. 85—98.

Упершыню надрукавана ў газ. «Дзянніца», Масква, 1918, №№ 40, 41, 42. Потым змяшчалася ў кнізе «Трэскі на хвалях» (1924).

Ёсць падставы меркаваць, што апавяданне напісана ў дарэвалюцыйны час. Магчыма, што ў ім аўтар выкарыстаў «Дзённік рабочага», які ён вёў у 1907—1908 гг., калі працаваў гарбаром, і ў якім зроблены запісы аб ходзе адной забастоўкі ў гарбарнай майстэрні.

**Дойдзем, сынок.** Стар. 58. Друкуецца па Збору твораў, т. II, БДВ, Мінск, 1929, стар. 47—51.

Упершыню надрукавана ў газ. «Савецкая Беларусь», 1920, № 3, пад псеўданімам Шчыры.

Потым змяшчалася ў кнігах «Трэскі на хвалях» (1924), «Выбраныя апавяданні» (1926), «Прысады» (1930).

Апавяданне «Дойдзем, сынок» было перакладзена на чэшскую мову вядомым чэшскім прафесарам Ф. Ціхім з Браціславы і надрукавана ў літаратурным дадатку да газ. «Rude Pravo», 1929, № 6, і ў дадатку да чэшскай газеты «Obrana», 1929, № 17, якая выходзіла ў Нью-Йорку.

У 1962 г. перакладзена на рускую мову (гл. зб. «Хозяин», стар. 28—31).

**Трэскі на хвалях.** Стар. 64. Друкуецца па Збору твораў, т. II, БДВ, Мінск, 1929, стар. 172—215.

Упершыню апублікавана ў часопісе «Полымя», 1923, № 3, 4, стар. 21—56; потым друкавалася ў зборніку «Трэскі на хвалях» (1924).

Апавяданне перакладзена на рускую мову і ўвайшло ў аднайменны зборнік «Щепки на волнах». Рассказы. Л., Прибой, 1928.

Пазней апавяданне было перакладзена на ўкраінскую мову і ўвайшло ў аднайменны зборнік «Тріски на хвилях». Оповідання. Харків, «Книгоспилка», 1930.

Гэты твор перакладаўся і на польскую мову.

У 1962 г. апавяданне зноў перакладзена на рускую мову (гл. зб. «Хозяин», стар. 94—132).

**Свае бліны.** Стар. 117. Друкуецца па зборніку «Гаспадар», БДВ, Мінск, 1930, стар. 53—90.

Упершыню апублікавана ў кнізе «Прысада», БДВ, Мінск, 1927, стар. 161—187. Датавана: «Мінск, 1-XII-26».

У 1929 г. апавяданне перакладзена на польскую мову.

**Прысады.** Стар. 151. Друкуецца па зборніку «Прысады», БДВ, Мінск, 1930, стар. 9—33.

Упершыню змешчана ў часопісе «Полымя», 1925, № 4, стар. 3—17, потым друкавалася ў зборніку «Прысады» (1927, 1928, 1930).

У 1962 г. перакладзена на рускую мову (гл. зб. «Хозяин», стар. 138—155).

**Гаспадар.** Стар. 174. Друкуецца па зборніку «Гаспадар», БДВ, Мінск, 1930, стар. 9—52.

Упершыню апублікавана ў часопісе «Полымя», 1928, № 1, стар. 19—42.

Апавяданне перакладзена на ўкраінскую мову. «Господар». Оповідання. Харків — Київ, «Література і мистецтво», 1932.

У 1929 г. твор перакладзены на польскую мову.

У 1962 г. апавяданне выдадзена на рускай мове (гл. зб. «Хозяин», стар. 188—217).

**Смерць Германа Васэрмана.** Стар. 213. Друкуецца па зборніку «Гоман зарніц», БДВ, Мінск, 1932, стар. 269—298.

Упершыню апублікавана ў часопісе «Маладняк», 1930, № 8—9, стар. 3—25. Датавана: «14.V.30, Мінск».

У 1929 г. твор перакладзены на польскую мову.

У 1962 г. перакладзены на рускую мову (гл. зб. «Хозяин», стар. 277—303).

**Касьян Рулін.** Стар. 252. Друкуецца па часопісе «Полымя рэвалюцыі», 1933, № 7, стар. 84—97, дзе апавяданне было змешчана ўпершыню.

## ЗМЕСТ

**Гартны, Цішка.**

Выбраныя апавяданні. Мінск, Дзяржвыд. БССР, 1962.

Бел 2.

На белорусском языке

Цишка Гартный (Дмитрий Федорович Жилунович).

ИЗБРАННЫЕ РАССКАЗЫ

Государственное издательство БССР
Минск 1962

Рэдактар О. Крайко
Мастак Н. Шырокаў
Мастацкі рэдактар Л. Прагін
Тэхнічны рэдактар І. Беленькая
Карэктар Р. Мяцеліца

АТ 15501. Здадзена ў набор 4/VII 1962 г. Падп. да друку 22/X-1962 г. Тыраж 6 000 экз. Фармат 70×108 1/32. Фіз. друк. арк. 8,75. Ум. друк. арк. 10,99. Уч.-выд. арк. 9,8. Зак. 1184. Цана 46 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа
Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР,
Мінск, Чырвоная, 23.